E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 5(5) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 25 – 31 СНЕЖНЯ 2002 ГОДА

**Падзеі**

## Прага сустрэла Васіля Быкава



Васіль Быкаў сустракае Каляды ў Празе і будзе там жыць без абмежавання ў часе. У вырашэнні праблемы пераезду ў Чэхію выбітнага беларускага пісьменніка прымала ўдзел канцылярыя чэшскага прэзідэнта і асабіста Вацлаў Гавел. З канца 1997 года народны пісьменнік Беларусі з-за неспрыяльнай атмасферы для творчасці на радзіме і непрыхаванага маральнага ўціску жыў па запрашэнні ПЭН-цэнтра ў Фінляндыі, а пасля ў Германіі. Вацлаў Гавел, сам вядомы пісьменнік, выказаўся адносна прыезду Васіля Быкава такімі ўзнёслымі словамі: «Даць Васілю Быкаву і ягонай жонцы магчымасць жыць у Чэхіі – гэта не толькі наш абавязак, гэта вялікі гонар для нашай дзяржавы». На вялікі жаль, на сваёй радзіме Васіль Быкаў такіх словаў ад сённяшняй улады ніколі не чуў. Нават у савецкія часы камуністычнае кіраўніцтва, не падзяляючы ідэалогію творчасці пісьменніка, паважала ягоны талент і адзначала ягоныя заслугі, разумеючы, што аўтара «Мёртвым не баліць», «Сотнікава», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды» шануе народ. Раманы і аповесці пісьменніка адлюстравалі цэлую эпоху. Быкаў прыйшоў у літаратуру галоўнага пераможцу на вайне – простага салдата, ён застаецца найбольш яркім і значным прадстаўніком Беларусі ў Еўропе і свеце наогул. Духоўны аўтарытэт Васіля Быкава роўны прароцкаму.

Альбіна ВІТУШКА

## Спадчына Язэпа Драздовіча

Выдавецтва «Беллітфонд» выдала надзвычай цікавы альбом, які знаёміць са спадчынай мастака Язэпа Драздовіча. Ён пазначыў сябе не толькі ў жывапісу. Шматбакова адораны, Драздовіч пакінуў след і ў скульптуры, этнаграфіі, археалогіі, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Яму належыць апісанне 30 археалагічных помнікаў, ён адкрыў некалькі стаянак каменнага веку. Язэп Драздовіч заснавальнік нацыянальна-гістарычнага жывапісу, а яго малюнкі і карціны – сапраўдная энцыклапедыя беларускага жыцця першай трэціны 20-га стагоддзя. У 1910 – 1920-я гады мастак стварыў вялікія графічныя серыі «Заслаўе», Мінск. Высокае месца», «Мір», «Глыбокае», «Навагрудак і навагрудцы», «Крэва», «Ліда», «Гальшаны», «Трокі», «Меднікі», якія набылі дакументальную вартасць. У гэтым ён дастойны паслядоўнік Напалеона Орды, які пакінуў архітэктурны вобраз Беларусі 19-га стагоддзя. Альбом знаёміць з усімі здабыткамі выдатнага самабытнага мастака.

Такое шыкоўнае выданне – сапраўдная аздоба хатняга кнігазбору. Гэта і цудоўны падарунак любому чалавеку, здольнаму ацаніць талент, самастойнасць мыслення, адоранасць асобы. Рэзюме і каталаг ілюстрацыяў падаюцца на трох мовах, і такім чынам альбомам можа карыстацца кожны еўрапеец.

Пазнаёміцца з гэтым цудоўным падарункам на Каляды можна ў сядзібе Таварыства беларускай мовы па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13.

**У нумары**



# З Нараджэннем Хрыстовым




*Шаноўныя чытачы!*
*Шчыра віншуем вас з надыходзячым Новым Годам!*
*Шчасця, здароўя і ўдачы вам і вашым родным!*
*Няхай Новы Год паспрыяе вашым задумам!*
*Рэдакцыя «Новага Часу»*

## Памятныя дні

**24 снежня**

**1798.** Нарадзіўся Адам Міцкевіч. Дарэчы, у Мінску няма нават вуліцы ў гонар гэтага слыннага паэта. Няма і помніка, хаця ён меўся з'явіцца ў 1998 годзе да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Праўда, цяпер у Міністэрстве культуры Беларусі абяцаюць, што помнік паэту паўстане ў сталіцы ў наступным годзе – у скверы паміж вуліцамі Валадарскага, Гарадскі вал і Няміга.

**25 снежня – Нараджэнне Хрыстова. Каляды**

**25 снежня**

**1642.** Нарадзіўся геніяльны англійскі вучоны Ісаак Ньютан, найбольш вядомы большасці людзей тым, што яму на галаву ўпаў яблык і гэта паспрыяла адкрыццю значных механічных і фізічных законаў.

**1997.** У Бангкоку быў спечаны самы вялікі ў свеце святочны пірог на Раство. Ён важыў 2.300 кг. Пірог гэты падзялілі на порцыі для 19.212 чалавек.

**27 снежня**

**1822.** На свет з'явіўся Луі Пастэр, заснавальнік мікрабіялогіі і імуналогіі. Пастэр прыдумаў кансервацыю прадуктаў. Менавіта ад ягонага прозвішча паходзіць пастэрызацыя, пра якую мы багата чуем: пастэрызаванае малако, пастэрызаванае піва. Ён жа вынайшаў вакцыну ад сібірскай язвы.

**1892.** У Нью-Ёрку закладзены кафедральны сабор святога Іаана плошчай на 11.240 квадратных метраў. Гэта самы вялізны сабор у свеце.

**28 снежня**

**1987.** 76-гадовая кіпрыётка Ківеді Папаіянову засела ў ліфце супермаркета на цэлых пяць дзён. Яе вызвалілі толькі 2 студзеня. Новы год яна сустрэла зусім не галоднай, бо ела купленыя ў краме прадукты.

**29 снежня**

**1884.** Памёр Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, аўтар хрэстаматыйных беларускіх п'есаў «Ідылія», «Пінская шляхта», «Залёты», пачынальнік беларускага тэатра. Па падазрэнні ва ўдзеле ў паўстанні 1863-1864 гадоў утрымліваўся болей за год у мінскім турэмным замку.

**30 снежня**

**1922.** Усе, хто тужыць па СССР ці проста родам адтуль (гэта большасць беларусаў), могуць адзначыць 80-годдзе ўтварэння дзяржавы, што займала адну шостую частку сушы. Больш за ўсіх – з 1922 па 1991 гады – у СССР былі Беларусь, Расія, Украіна, Азербайджан, Арменія ды Грузія. Ад 1925 года ў ім былі Узбекістан і Туркменістан, ад 1929-га – Таджыкістан, ад 1936-га – Казахстан ды Кыргызстан, ад 1940-га – Малдова, Літва, Латвія і Эстонія.

**1 студзеня**

**1919.** Абвяшчэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Неўзабаве была пераўтворана ў Літоўска-Беларускую ССР, якая праіснавала паўгады.

**1927.** Арыштаваны драматург і тэатральны дзеяч Францішак Аляхновіч, адзін з тых, хто ў 1910 годзе наладзіў у Вільні першую тэатральную вечарынку. Пасля арышту сасланы на 10 год на Салаўкі. Але ў 1933 годзе яго вызвалілі: ён быў абменены на вязня польскай турмы вядомага літаратара і філолага, палітычнага дзеяча Браніслава Тарашкевіча (расстраляны ў Курапатах у 1937 годзе).

**2000.** У Беларусі праведзена дэнамінацыя нацыянальнай валюты. З грашовых купюр прыбралі тры нулі. Беларусаў-мільянераў паменела.

**3 студзеня**

**1850.** Нарадзілася матэматык і першая ў свеце жанчына-прафесар, беларуска па паходжанні Соф'я Кавалеўская.

**1952.** Памёр вядомы беларускі архітэктар Іосіф Лангбард. Па ягоных праектах у Мінску паўсталі Дом ураду, Оперны тэатр, галоўны корпус Акадэміі навук, Дом афіцэраў.

**4 студзеня**

**1960.** У аўтакатастрофе загінуў вядомы французскі пісьменнік-экзістэнцыяліст, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1957 года Альбер Камю. Каля машыны, якая ўрэзалася ў платан, ляжаў партфель з незавершаным раманам Камю «Першы чалавек». Апрача яго, ён аўтар такіх твораў, як «Чужаніца», «Чума», «Падзенне», «Бунтуючы чалавек» ды іншых.

**6 студзеня**

**1822.** Нарадзіўся нямецкі археолаг-аматар Шліман, які знайшоў Трою. Ён прагнуў яе адшукаць з 7-гадовага веку, калі ўбачыў кніжку з малюнкамі разбуранай Троі і паверыў, што паэма Гамера напісаная на падставе гістарычных фактаў. Карацей, хто шукае, той знаходзіць. Шліман гаварыў: «Каб жыццё было цікавым і поўным, трэба верыць у здзяйсненне запаветнай мары і берагчы сілы да яе ўвасаблення».

**1937.** У СССР скончаецца перапіс насельніцтва, дадзеныя якога былі засакрэчаныя.

**1852.** Пайшоў з жыцця француз Луі Брайль, які пазбавіўся зроку ў веку трох гадоў, а ў дваццаць прыдумаў сістэму пісьмовасці для сляпых. Літары ўяўляюць сабой камбінацыі з шасці кропак, праколатых са зваротнага боку паперы. Дзякуючы гэтаму сотні тысячаў людзей аказаліся далучанымі да культурных здабыткаў чалавецтва.

**Кірыла ПАЗНЯК**

# Замак здасцца турыстам

Культурна-турыстычная зона «Нясвіж – Мір» можа сапраўды стаць рэальнасцю. Дзеля гэтага патрэбны амаль 50 мільёнаў даляраў інвестыцыйных сродкаў, каб абуладкаваць турыстычна-гатэлёвы комплекс (ТГК) «Нясвіж». Стварэнне культурна-турыстычнай зоны «Нясвіж–Мір» злучана з эканамічным развіццём гэтых гарадоў і ўвогуле Нясвіжскага і Карэліцкага раёнаў і будзе стымуляваць гандаль, бытавое абслугоўванне, будаўніцтва, сувязь, транспарт, вытворчасць тавараў народнага спажывання, адукацыю, пашырэнне культурных паслугаў.

Мірскі замак ужо зведаў пачатак рэстаўрацыі, і з кожным годам яго наведванне турыстамі пашыраецца. Турыстычна-гатэлёвы комплекс «Нясвіж» будзе ўключаць замак Радзівілаў, іншыя захаваныя помнікі 16-17 стагоддзяў, спартыўна-рэанімацыйны цэнтр, гатэлі і парк у былой загараднай сядзібе Радзівілаў Альба. Плануецца атрымаць амаль 32 мільёны даляраў замежных інвестыцыяў і 15 мільёнаў ад унутраных інвестараў. Рэалізацыя праекта разлічваецца на 2003-2005 гады. У калядныя дні варта пажадаць праекту ўдачы.

**К. П.**

# *Святкуем па-беларуску*

**Дарагія людзі!**

Неўзабаве – любімыя ўсімі зімовыя святы: Каляды і Новы Год. Таварыства беларускай мовы заклікае адсвяткаваць іх прыгожа, па-беларуску. Набывайце віншавальныя паштоўкі і канверты на роднай мове. Кажыце адно аднаму пяшчотныя і ласкавыя словы, пажаданні, набывайце аўдыёкасеты і кампакт-кружэлкі з каляднымі песнямі. Хай Вашы святочныя сталы ўпрыгожаць старадаўнія беларускія стравы: блінцы, куцця ячная, аўсяны жур (кісель), грыбная поліўка, селядзец. Узгадаем нашы напоі: узвары фруктовыя, медавуху, – і добрую традыцыю піцця – на сямёх сотку, а таксама вясёлыя калядныя спевы, жарты, гульні – усё тое, што складае народную духоўную спадчыну.

Прыемных і запамінальных народных святаў!

**Сакратарыят ТБМ**

# 450-годдзе Рэфармацыі

Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні 450-годдзя Рэфармацыі ў Беларусі зацвердзіў план мерапрыемстваў, што будуць праводзіцца на працягу наступнага года па ўсёй краіне і асабліва ў мясцінах, гістарычна звязаных з падзеямі, асобамі і помнікамі Рэфармацыі і ўвогуле «Залатога веку». Сярод святочных мерапрыемстваў вызначаны правядзенне канцэртаў, прысвечаных Рэфармацыі, 3-дзённы фестываль мастацкіх калектываў, прэзентацыя дыска сярэднявечнай музыкі гурта «Стары Ольса», 10-дзённая мастацкая выстава, прысвечаныя Рэфармацыі, конкурс сярод студэнтаў і маладых навукоўцаў «Рэфармацыя і Рэнесанс у Беларусі. XVI ст.», міжнародныя навуковыя канферэнцыі, мемарыялізацыя мясцінаў, звязаных з Рэфармацыяй у Беларусі (Нясвіж, Брэст, Слуцк, Лепель), конкурс сярод мастакоў і скульптараў Беларусі на лепшы мастацкі твор прысвечаны Рэфармацыі, міжнародны круглы стол «Традыцыі талерантнасці ў ВКЛ. Культурна-філасофскі аспект», творчыя сустрэчы з паэтамі і пісьменнікамі, прысвечаныя зместу «Залатога веку».

Плануецца выдаць брашуры «Галоўныя падзеі Рэфармацыі» і «Дзеячы Рэфармацыі», а таксама кнігі пра Радзівіла Мікалая Чорнага, грамадска-палітычныя трактаты Андрэя Волана, «Хроніка Залатога Веку», «Катэхізіс» Сымона Буднага, Новы Запавет на беларускай мове. У серыі «Беларускі кнігазбор» будзе ажыцёўленае выданне працы Крыштафа Монвіда Дарагастайскага «Гіпіка, альбо аповед пра коней» у перакладзе С.Ішчанкі.

# «Алеся» нясе спагаду

Хто сёння можа дапамагчы дзецям-сіротам, дзецям-інвалідам адчуць сябе патрэбнымі ў грамадстве, упэўніцца, што яны не лішнія на зямлі. Вялікую дапамогу аказваюць у гэтым грамадскія дабрачынныя арганізацыі, якія з дапамогай замежных партнёраў робяць жыццё абяздоленых дзяцей трошкі весялейшым.

У гэтым накірунку распачало працу Беларускае дабрачыннае грамадскае аб'яднанне «Алеся», якое злучыла дактароў, педагогаў, бібліятэкараў, інжынераў – усіх неабыякавых людзей з самых розных абласцей нашай краіны. Узначаліла арганізацыю Ларыса Казак. Гэтая спагадлівая жанчына ўжо даўно прыглядалася да жыцця дзетак з парушэннем мовы і слыху ў школе-інтэрнаце Заслаўя. Некалькі гадоў яна апякуе маленькага Паўліка з гэтай школы, які катастрафічна страчвае слых. Сябры БДГА «Алеся» наведалі Заслаўскую школу-інтэрнат, правялі з дзецьмі калядныя гульні, уручылі прызы. Было трохі нязвычна гуляць з дзецьмі, якія не чуюць і не гавораць. Аднак жаданне атрымаць прыз, перамагчы было такім моцным у дзетак, што тыя, хто ўмеў трошку гаварыць, пачалі ўжываць беларускую мову, каб парадаваць вядоўцаў. Тым больш, адчувалася, што мова для іх прывычная.



Бо ў асноўным яны з навакольных вёсак, з беларускамоўных сем'яў. Шкада толькі, што рускамоўнае навучанне патроху вытручвае з іх беларускасць.

Завіталі сюды сябры «Алесі» і з гасцямі з Вялікабрытаніі Майкам Раем і Кей Хэйлз, якія прыехалі ў Беларусь з гуманітарным грузам валійскай арганізацыі «Канвой надзеі». Гэты фонд вось ужо 10 гадоў прывозіць у Беларусь лекі, вітаміны, адзенне, апаратуру. Кіраўнік арганізацыі Майк Рай, які ніколі не бачыў свайго бацьку, бо той загінуў на Другой сусветнай вайне, ведае цану жорсткасці і дабрыні. Ён служыць дабрыні вось ужо некалькі дзесяткаў гадоў свайго жыцця. Усюды, дзе неабходная дапамога.

Сёння дапамога патрэбная Заслаўскай школе-інтэрнату. Мікалай Бенедыктавіч, дырэктар установы, клапатліва рыхтуе на зіму паліва, харчаванне, вопратку, абсталяванне. Але неабходнага ўсё роўна не хапае. І тады выручаюць дабрачынныя арганізацыі, сярод якіх сціпла працуе новастворанае БДГА «Алеся».

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ,**
**намеснік старшыні БДГА «Алеся»**

# Калядныя пачуцці...

Каляды і Новы Год – цудоўны час. На некалькі дзён мы пагружаемся ў дзіўную атмасферу чакання цуду. Чакаем зменаў да лепшага, пераменаў у жыцці, адным словам, чакаем Новага часу, які спраўдзіць нашыя лепшыя задумы і жаданні. Зразумела, што гэтыя святы ўсе ўрачыста адзначаюць.

Вось як святкуюць Каляды і Новы Год некаторыя знаныя ў краіне асобы.

**Аляксандр Старыкевіч, журналіст:**

– Звычайна Новы Год і Каляды адзначаем у ціхай дамашняй атмасферы, але таксама здаралася павандраваць у гэты час па некаторых еўрапейскіх гарадах. Я лічу, што галоўнае ў свяце – гэта



падрыхтоўка да яго, а Божае нараджэнне, якраз тым і значнае, што расцягваецца на некалькі дзён цудоўнага чакання, якое праходзіць у святочнай атмасферы. Па традыцыі будзе ёлка, куцця, калядныя спевы. Жаданняў шмат, планаў на новы год таксама. У нашай краіне ўвогуле, калі не быць аптымістам, жыць вельмі цяжка.

**Вольга Іпатава, пісьменніца:**

– Самыя паэтычныя і можа быць самыя запамінальныя Каляды для мяне, былі тады, калі я іх святкавала разам са сваёй бабуляй Вольгай, у глухой беларускай вёсачцы Бешанковіцкага раёна. Тады ў каляд-



ную ноч было бачна, як ва ўсіх хатах гараць альбо свечкі, альбо газнічкі.

Зараз ужо няма той глыбіннай веры ў цуд, які павінен адбыцца ў калядную ноч. Да гэтага мы ўжо адносімся з нейкай доляй іроніі. А тады я памятаю, як уся мая дзіцячая істота чакала цуду.

Абавязкова мая бабуля, простая сялянка, якая ледзь умела чытаць і пісаць, рабіла мне нейкі падарунак. Што тады ў пасляваенныя жабрацкія гады было падарункам? Цукерачкі-падушачкі, якія можна было набыць у краме, ці жменя пражаных бабоў – гэта тое, пра што нашыя дзеці ўжо не ведаюць. А тады гэта было такім ласункам, смак якога мне помніцца і дагэтуль. А яшчэ было непаўторнае адчуванне поўнага зліцця з прыродай, з небам, са свечкай... Для мяне гэта вера ў цуд з майго дзяцінства захавалася і дагэтуль.

У наступным годзе я б хацела, каб Усявышні паслаў мне іскрынку, прамень свайго святла, які дапамог бы мне скончыць раман «Віленскія пакутнікі». Без гэтага вышняга адчування, на мой погляд, творцу пісаць немагчыма. Твор можа атрымацца дасканалым, але халодным.

**Дзіна Шаўцова, юрыст аб'яднання евангельскіх цэркваў:**

– Вечар 24 снежня мне падаецца самым таямнічым. Мы з мужам рыхтуем дзецям і сябрам падарункі. Нашай малодшай дачцы толькі два з паловай гады, і яна яшчэ не вельмі добра разумее



сэнс гэтага свята, але любіць яго за падарункі. Раніцай на наступны дзень ідзем у царкву. А пасля збіраемся ўсёй сям ёй на святочны абед. Заўсёды спадзяюся, што наступны год будзе лепш за папярэднія.

У наступным 2003 годзе мне б хацелася пашырыць інфармацыйнае поле праваабарончай абароны веруючых розных канфесій. Дапамога ў абароне людзей – мэта нашай працы. Сярод асабістых планаў – скончыць рамонт у кватэры.

**Анатоль Лябедзька, лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

– Дома ў нас, як заўжды, будзе традыцыйная ёлка, падарункі, святочныя стравы. На Новы Год мы звычайна выязджаем за горад, там наогул ёлак шмат. Адной з іх пашанцуе, бо яна будзе нашай ёлкай і застанецца жыць у родным лесе, расці далей.



Паколькі свята, хачу сказаць, што злосці ні на каго не трымаю. Новы Год хацеў бы пачаць, як кажуць, «з новага ліста» і не пераносіць у яго непрыязнь з мінулага. Мы прытрымліваемся талерантнай пазіцыі і гатовыя супрацоўнічаць з усімі.

На гэтыя святы буду ў раз`ездах. У рамках акцыі, якую праводзіць наша партыя «Будзем разам», я планую наведаць журналістаў «Пагоні» – Міколу Маркевіча, які адбывае тэрмін зняволення ў Асіповічах, і Паўла Мажэйку, які працуе «на хіміі» ў Жлобіне. Гэтыя людзі болей за астатніх патрабуюць падтрымкі.

**Станіслаў Акінчыц, гісторык:**

– Свята Божага Нараджэння, на мой погляд, нельга адрозніць ад яго першапачатковага сэнсу. У гэты час мы ўзгадваем, што дзве тысячы гадоў таму нарадзіўся Ісус Хрыстос. Гэта падзея змяніла гісторыю чалавецтва, якая з таго часу дзеліцца на «да і пасля» нараджэння Хрыста. Заўсёды ў тых краінах,



дзе Божае Нараджэнне з'яўляецца не проста абстрактнай традыцыяй, а падзеяй, якая ўваходзіць у жыццё кожнай сям і, кожнага чалавека, ёсць дабрабыт і справядлівасць. Гэтыя краіны вядомыя па ўсім свеце і маюць слаўную гісторыю. Я веру, што калі ў нашай краіне кожная сям'я будзе адзначаць гэтае свята, і гэта не будзе проста абрадам, а будзе злучана з сапраўдным яго сэнсам, Беларусь зменіцца і зойме сваё дастойнае месца.

**Апытвала Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

**Сяргей КОЎГАН**

## *На Каляды*

*Замяла мяцеліца двары і палеткі,*
*Па страху сумёты за дзень намяло.*
*Увечар сядуць дзеўкі, прапяюць напеўкі,*
*Варажыць пачнуць яны пра сваё жыццё.*

*Пакладуць у сенцах на тры пальцы зерня,*
*Кавалачак гліны, паўкаўша вады.*
*І ўпусцяць пеўня з нітачкай на грэбені,*
*І паназіраюць: той пойдзе куды.*

*Калі кране зерне, будзе любы верны,*
*Будуць грошы ў хаце і дзіцячы смех.*
*Калі з каўша вып'е, муж у п'янцы знікне,*
*Калі гліну зрушыць, будзе дзеўцы грэх.*

*А пад самы вечар, калі трэба спаці,*
*Пакладуць у падушку пірага кусок*
*І паклічуць хлопца разам павячэраць.*
*Калі хто прысніцца — будзе жанішок.*

*А зіма гуляе, Каляда спявае:*
*Калі цёпла ў студзені — холадна вясной,*
*Калі выпаў іней, то да ўраджаю,*
*Калі ідзе дожджык — восень будзе злой.*

# *Няпроста быць Дзедам Марозам*

***Гісторыя з артыстычнай кар'еры Яўгена Крыжаноўскага, мастацкага кіраўніка тэатра сатыры і гумару «Хрыстафор»***



Аднойчы на Новы Год у мяне быў страшэнны канфуз. Загадчыца дзіцячага садка, у які хадзіла мая дачка, папрасіла, каб я сыграў ролю Дзеда Мароза. Рэквізіт мне далі, усё як мае быць: шуба, шапка, барада, мяшок. Тэкст таксама просты: «Здравствуйте, Пети, здравствуйте, Вали. Здравствуйте, все, кто сидит в этом зале. А меня-то вы узнали? Все такой же я седой, с длинной белой бородой. Седовлас и красен нос, кто я, дети?» Дзеці павінны былі адказаць: Дзед Мароз. Але дзядзя Жэня пераблытаў словы і сказаў: «Здравствуйте, Пети, здравствуйте, Вали. Здравствуйте, все, с кем вчера выпивали». Самыя розныя людзі, што прыйшлі на гэты ранішнік, каб паглядзець на артыста Крыжаноўскага, былі ў шоку. А паколькі я займаўся не сваёй справай, то і далей сказаў няправільна: «Красен нос и седовлас». Дзеткі, як вы ведаеце, цяпер вельмі дасведчаныя, і таму яны адказалі... вось, сінонім: Бора Маісееў. Гэта быў мой першы і апошні выхад у ролі Дзеда Мароза.

# Клопаты святочнага тыдня

## *Службоўцы пра свой клопат у часе галоўнага свята года*

**Намеснік главы Адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска Мікалай Буры:**

– Калядныя і пераднавагоднія клопаты ў мяне і маіх калег пачынаюцца з лістапада. А ўжо з 20 снежня можна ўбачыць вынікі гэтых



намаганняў. У нас у раёне пройдуць ранішнікі для дзяцей, найперш увага будзе аддадзена дзецям-сіротам і інвалідам. Менавіта для іх пройдзе шэсць ранішнікаў. Шмат розных мерапрыемстваў мы будзем праводзіць і для людзей сталага веку, шматдзетных сем'яў. Цэнтральны раён – сэрца горада. У Палацы моладзі будзе гарадская ёлка, у Палацы Рэспублікі – прэзідэнцкая, на Кастрычніцкай плошчы, на праспекце Машэрава будзе шмат святочных мерапрыемстваў.

Новы Год буду сустракаць пад ёлкай каля кінатэатра «Кіеў», за якую адказваю. Паколькі я ўжо не першы год працую ў структурах выканаўчай улады, то мая сям'я прызвычаілася да таго, што ў мяне святочныя дні самыя напружаныя, і я на працы. Калі будзе не вельмі халодна, то і сваю сям'ю прывяду святкаваць Новы Год разам каля грамадскай ёлкі.

**Камандзір палка патрульна-паставой службы міліцыі ГУУС Мінгарвыканкама падпалкоўнік міліцыі Аляксандр Барсукоў:**

– Чым буйней зоркі на пагонах і вышэй пасада, тым менш шанцаў сустракаць Новы Год дома. Зараз я зацвярджаю графік нясення



службы шэраговым і сяржанцкім складам 31снежня і 1 студзеня. Камандзіры рот пільна адсачылі: хто нёс службу ў навагоднюю ноч-2002, той атрымае выхадны ў навагоднюю ноч-2003. Мінулыя навагоднія святы прайшлі спакойна, крыху толькі папсавалі нервы «піратэхнікі» з петардамі. Мушу зазначыць, што гэта – небяспечная забава. У руках падлеткаў петарду можна параўнаць з гранатай. Увогуле, мы так настройваем сваіх супрацоўнікаў, што іх галоўны абавязак абараняць грамадзян і дапамагаць ім, а не шукаць, за што б выпісаць адміністрацыйны пратакол. У навагоднія святы мае падначаленыя будуць лаяльна ставіцца нават да парушальнікаў. Але зразумела, што ёсць пэўная мяжа.

На працягу апошніх гадоў сямі сустракаю Новы Год на службе. І гэты год не стане выключэннем. Час ад часу ў сем'ях міліцыянтаў родныя выказваюць незадаволенасць тым, што на свята бацькі, мужа дома няма. Але незалежна ад таго, кім працуе жонка міліцыянта, у пэўнай ступені яна таксама падзяляе ўсе складанасці нашай службы. У гэту навагоднюю ноч у Мінску на аднаго міліцыянта будзе болей: мая жонка вырашыла дапамагаць ахоўваць грамадскі парадак. Трэба шукаць павязку дружынніка, – смяецца падпалкоўнік.

**Старшыня Рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза працаўнікоў сувязі Валянціна Асіпенка:**

– У нашага прафсаюза ёсць добрая традыцыя – мы сябруем з дзіцячымі дамамі. Напярэдадні Новага Года супрацоўнікі нашага апарату абавязкова наведаюць дзетак з мінскага дзіцячага дома № 6. Мы ўжо набылі для нашых маленькіх сяброў падарункі. Яны таксама чакаюць нас і рыхтуюць святочны канцэрт.



Не абдзелены ўвагай і дзеткі нашых супрацоўнікаў. Хоць фінансавае становішча прафкамаў РА «Белпошта» пакуль што недастаткова моцнае, мы знайшлі магчымасці. І цяпер дзеткі ва ўзросце да 13–14 год супрацоўнікаў «Белпошты» і «Белтэлекама» атрымаюць добрыя падарункі з самымі смачнымі цукеркамі. Шмат дзетак правядуць зімовыя вакацыі на нашай базе адпачынку.

Для мяне асабіста навагодняе свята самае прыгожае і радаснае. Я заўсёды звязваю з ім добрыя спадзяванні. І паверце, калі чалавек захоча быць шчаслівым, ён такім і будзе. Я спадзяюся, што наступны год будзе лепшым за папярэдні найперш таму, што мы самі станем лепшымі.

**Першы намеснік начальніка крымінальнай міліцыі ГУУС Мінгарвыканкама палкоўнік міліцыі Віктар Краснічэнка:**

– За 15 гадоў службы ў крымінальнай міліцыі я не болей пяці разоў святкаваў Новы Год дома, з сям'ёй. Мінулы Новы Год я сустракаў на працы.



Тады я яшчэ служыў начальнікам Партызанскага РУУС. На жаль, на службе няма часу заўважаць прыгожае святочнае ўбранне горада. А так прыемна, што наш Мінск прыгажэе з кожным годам.

Пакуль выпадае, што 2003 год буду сустракаць дома. Але калі ў горадзе нешта здарыцца, то мушу прыбыць на месца здарэння. Таму мне вельмі хочацца пажадаць усім мінчанам шчаслівага Новага Года, а яшчэ каб не было здарэнняў і каб мае калегі – супрацоўнікі крымінальнай міліцыі – навагоднюю ноч сустракалі дома з дзецьмі і роднымі, а не на месцах злачынстваў.

**Апытвала Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Засваенне стандартаў

Што агульнага паміж вяселлем і выбарамі? І ў адным, і ў другім выпадку ніхто не ведае, што яго чакае пасля года сумеснага жыцця. Гэтую акалічнасць агучыў адзін з гасцей міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Сусветныя стандарты і беларускае заканадаўства», што адбылася ў Раўбічах.

Арганізатарам канферэнцыі стала Грамадскае аб'яднанне «Праваабарончы Цэнтр «Вясна». Вядомы актыўны ўдзел «Вясны» ў мінулых прэзідэнцкіх выбарах у складзе «Незалежнага назірання», а таксама выданне матэрыялаў і брашур у дапамогу выбаршчыкам і назіральнікам. Таму пытанне ўдзельнічаць ці не ў мясцовых выбарах для сяброў «Вясны» – справа вырашаная. Старшыня ПЦ «Вясна» Алесь Бяляцкі кажа: «Я лічу, што ў выбарах трэба ўдзельнічаць па дзвюх прычынах. Першае – таму што гэта выдатны час для непасрэднай працы з электаратам. А па-другое, на маю думку, існуе рэальная магчымасць перамогі нашых дэмакратычных кандыдатаў».

Неабходнасць працы з электаратам адзначалася на канферэнцыі неаднаразова. Безумоўна, што выбары – гэта магчымасць заявіць аб сабе для палітычных партый і арганізацый. Хоць уплыў мясцовых саветаў, як зазначыў адзін з удзельнікаў канферэнцыі, мінімальны, але для партый у наш час выбарчая кампанія – жыццёвая патрэба. Неаднаразова на паседжаннях падкрэслівалася, што ўдзел у выбарах гэта «вучоба палітычнай барацьбе, майстэрству прамовы і адзіная легітымная публічная трыбуна, дзе можна адстаяць сваё меркаванне». Аднак пры гэтым нельга змяніць таго, што мясцовыя саветы застаюцца самай «дэкаратыўнай» галіной улады, уплыў якой на рэальныя падзеі і абстаноўку ў краіне нязначны. «Што застаецца дэпутатам? Асфальтаванне дарог і вываз гною. Аднак удзельнічаць трэба, інакш кола аднадумцаў замкнецца», – перакананы ўдзельнік канферэнцыі, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Іван Пашкевіч. Сапраўды, у часы, калі нават акрэсленне праблемы – гэта ўжо не пазіцыя, а апазіцыя, то агучванне праблемных момантаў і крок ва ўладныя структуры – гераічны учынак.

Асноўныя прынцыпы дэмакратычных выбараў – адкрытасць, галоснасць і празрыстасць. Гэтыя пастулаты сфармуляваў у сваім дакладзе прадстаўнік Асацыяцыі арганізатараў выбараў у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы Іштван Кожэгі. У нашай краіне гэтыя стандарты пакуль толькі чакаюць свайго ажыццяўлення. Па словах сп. Кожэгі, «у Беларусі адсутнічае досвед шматгадовай дэмакратыі, які з'яўляецца падмуркам для дзяржаўнага ўладкавання ў заходніх краінах.» Неаднаразова ўдзельнікамі канферэнцыі падкрэслівалася, што прычынай парушэння дэмакратычнай выбарчай працэдуры становяцца розныя падзаконныя акты, у прыватнасці дэкрэты прэзідэнта, у той час як у Канстытуцыі, як і ў большасці заходніх краін, замацаваныя цалкам справядлівыя прынцыпы.

Дарэчы, што тычыцца замежных гасцей, то тут не абышлося без скандалу. Некаторым з удзельнікаў канферэнцыі было адмоўлена ў выдачы візаў. Аднак у Раўбічы ўсё ж прыехаў уплывовы еўрапейскі чыноўнік сп. Карэ Волян, глава місіі АБСЕ на выбарах у некалькіх краінах Еўропы. Факт яго прысутнасці на навуковым форуме асабліва адметны ў час, калі АБСЕ і яе прадстаўнікоў не называюць жаданымі гасцямі ў нашай краіне.

Працоўнай мовай на канферэнцыі былі англійская і руская, аднак у кулуарах і дыскусіях больш гучала беларуская мова. Дыскутавалі ўдзельнікі ў асноўным па пытаннях супольнай працы і адзінства ў маючай адбыцца палітычнай кампаніі. Гэта дае падставу меркаваць, што ў тэхналогіях удзельнікі ўжо дастаткова спрактыкаваныя.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# ВНУ ў Літве:

## *праблемы рускамоўнай адукацыі*

У Літве на пачатак 2002 года было зарэгістравана 35 дзяржаўных і недзяржаўных вышэйшых школ, універсітэтаў і каледжаў, у якіх навучалася каля 113 тысячаў студэнтаў.

Навучанне ў гэтых ВНУ праводзіцца на дзяржаўнай літоўскай мове. Але ёсць нямала абітурыентаў, якія жадаюць атрымаць адукацыю на расейскай мове альбо працягнуць адукацыю ў расейскіх ВНУ. Расейскія ВНУ для таго, каб адкрыць у Літве свой філіял, мусяць атрымаць ліцэнзію Міністэрства адукацыі і навукі Літвы. Для гэтага трэба мець адпаведную матэрыяльна-тэхнічную базу, кваліфікаваны выкладчыцкі склад, адпаведнае вучэбна-метадычнае забеспячэнне і пэўную колькасць студэнтаў. Выканаць усе гэтыя патрабаванні дастаткова складана, таму ў Літве не зарэгістраваны ніводзін філіял расейскіх ВНУ, хаця існуюць установы (усялякія ЗАО, навучальныя цэнтры), якія прадстаўляюць інтарэсы расейскіх ВНУ і на аснове іх праграмаў праводзяць навучанне.

Аднак некаторыя з такіх установаў часта не маюць дамовы з адпаведнымі расейскімі ВНУ, але выкарыстоўваюць і скажаюць іх праграмы і методыку навучання. Нярэдка для выкладчыцкай працы запрашаюцца людзі, якія не маюць дастатковай кваліфікацыі і нават адукацыі. У большасці ўстановаў, якія праводзяць навучанне на расейскай мове, плата за адукацыю вышэй, чым у дзяржаўных ВНУ, а якасць і ўзровень адукацыі значна ніжэйшы. Амаль усе такія «цэнтры», рэкламуючы свае метады працы як перадавыя, а форму адукацыі як дыстанцыйную, насамрэч праводзяць навучанне ў выглядзе заняткаў па вечарах і ў выходныя дні часта па састарэлых дапаможніках альбо нават пры іх адсутнасці, прапаноўваючы студэнтам самім шукаць патрэбныя для вучобы дапаможнікі. Аднак студэнты, жадаючы атрымаць дыплом, вымушаныя плаціць немалыя грошы і згаджацца з такімі метадамі і формамі навучання.

Адукацыя на расейскай мове ў Літве ператварылася ў «дзікую», нелегальную камерцыйную дзейнасць. У літоўскай прэсе часта з'яўляюцца публікацыі пра нелегальныя ВНУ, падманутых студэнтах. Нават ставіцца пытанне пра непрызнанне ў Літве расейскіх дыпломаў аб вышэйшай адукацыі.

**Кацярына КАМОЦКАЯ**
Вільня

# Польскі вопыт: мясцовыя выбары

***Як і чым жывуць нашы блізкія суседзі? Якія яны маюць праблемы і як іх вырашаюць? Як праводзяць выбарчыя кампаніі? Што ў іх ёсць цікавага для пераймання? Хачу падзяліцца сваімі назіраннямі, якія маю на гэты конт пасля 10 дзён знаходжання ў суседняй з намі Рэспубліцы Польшчы.***

### Выбарчы ўчастак

27 кастрычніка 2002 г. у Польшчы праходзілі выбары ў мясцовае самакіраванне. Яны маюць чатыры ўзроўні: выбары дэпутатаў гміны, павету, ваяводскага сойміка, а таксама простыя выбары бурмістраў, войтаў і прэзідэнтаў гарадоў. Выдаткі на правядзенне выбараў склалі 154 млн. злотых (38,5 млн. еўра).

Выбары праходзяць на працягу аднаго дня. Выбарчая ўрна ўвесь час знаходзіцца ў зале для галасавання. Яе пастаянна бачаць усе члены камісіі. Ніякіх вынасных урнаў няма. Выбарчыя камісіі ствараюцца і ў шпіталях і ў турмах. Там таксама выбарчыя ўрны знаходзяцца ў вызначаным месцы, іх ніхто не носіць.

На выбарчым участку і ў камісіях усіх узроўняў знаходзяцца давераныя асобы кандыдатаў, якія маюць доступ да ўсёй інфармацыі. Пасля заканчэння падліку галасоў пратакол вывешваецца для агульнага агляду, што надалей прадухіляе магчымасць фальсіфікацыяў. Самі кандыдаты і іх выбарчыя штабы хутчэй будуць ведаць вынікі, чым гэта стане вядома ў Варшаве ў Дзяржаўнай выбарчай камісіі. Журналісты таксама могуць праверыць адпаведнасць вынікаў ва ўчастковых камісіях і тых, што праз вызначаны тэрмін будуць аб'яўлены Дзяржаўнай выбарчай камісіяй. Тут важную ролю іграюць незалежныя сродкі масавай інфармацыі, якія вельмі ўважлівыя і да працэдуры выбараў, і да іхніх вынікаў.

Выбары дэпутатаў гміны, павету, ваяводскага сойміка праходзяць па партыйных спісах або спісах выбарчых камітэтаў, прычым неабавязкова асобы ў спісах з'яўляюцца сябрамі партыі. Войты, бурмістры і прэзідэнты гарадоў выбіраюцца прамым галасаваннем.

Чалавек, які падчас выбараў у мясцовае самакіраванне знаходзіцца недзе на адпачынку або ў камандзіроўцы, не зможа прыняць удзел у галасаванні.

Калі адбываюцца выбары прэзідэнта краіны або дэпутатаў Сойму, прагаласаваць можна ў любым месцы, нават за межамі краіны.

Найбольш складанай справай для выбарчых камісіяў з'яўляецца рэгістрацыя кандыдатаў. Кандыдат павінен пражываць на той тэрыторыі, дзе ён балатуецца. Балатавацца ён можа толькі ў адзін выбарчы орган і толькі па адным спісе. На гэтых выбарах было 300.000 кандыдатаў. Камісія правярае ўсіх кандыдатаў. Акрамя таго правяраецца спіс выбаршчыкаў, якія паставілі свае подпісы ў падтрымку спісу кандыдатаў ад партыі або выбарчага камітэту.

Асобна кантралюецца фінансавы бок выбарчай кампаніі. Кожная партыя або выбарчы камітэт адкрывае спецыяльны рахунак на выбарчую кампанію. Сродкі на рахунак паступаюць шляхам банкаўскага пералічэння. Любы грамадзянін можа перавесці на гэты рахунак 11.400 злотых (2.850 еўра). Кандыдат абавязаны ўзгадніць усе свае выдаткі з выбарчым штабам. Ён не мае права перабольшыць вызначаную квоту.




### Агітацыя

Выбарчая кампанія цягнецца 60 дзён. Гэта вельмі напружаны час як для выбарчых камісіяў, так і для кандыдатаў.

Падчас падрыхтоўкі да выбараў ствараюцца выбарчыя кааліцыі палітычных партыяў, выбарчыя камітэты грамадскіх арганізацыяў і групаў грамадзянаў, якія рэгіструюцца ў Дзяржаўнай выбарчай камісіі. У межах краіны гэтыя кааліцыі могуць адрозніваецца, у некаторых месцах партыі ідуць самастойна, не ствараючы кааліцыі.

Па спісах ад партыяў ці выбарчых камітэтаў балатуюцца і беспартыйныя грамадзяне. Гэта, як правіла, вядомыя людзі, добрыя спецыялісты, якія зарэкамендавалі сябе. Асабліва шмат непартыйных балатуюцца на бурмістраў, войтаў і прэзідэнтаў гарадоў. Гэта высокакваліфікаваныя спецыялісты, якія маюць вопыт кіравання, граматныя менеджэры. Вялікая канкурэнцыя ў буйных гарадах. Напярэдадні выбары прэзідэнта краіны, і шмат хто з іх у будучым будзе прэтэндаваць на гэтую пасаду.

Апошні тыдзень перад выбарамі бадай самы напружаны. У гэты час выбаршчыкам раздаецца найбольшая колькасць улётак. Улёткі днём раздаюць у людных месцах: на прыпынках транспарту, ля буйных крамаў, на рынках.

Увечары самі кандыдаты і валанцёры ходзяць з улёткамі па кватэрах, праходзіць акцыя «ад дзвярэй да дзвярэй». Улёткі кандыдатаў сапраўды трапляюць у кватэры выбаршчыкаў. Гэта адбываецца ў тым выпадку, калі іх перадаюць непасрэдна ў рукі людзям.

Каманды кандыдатаў стараюцца менавіта ў гэты час развесіць плакаты ў розных месцах. Гэта спецыяльныя тумбы для аб'яваў, прыпынкі гарадскога транспарту, слупы элект-

# Як крочаць у Еўропу


Рыга

## Ці ёсць гэтакая перспектыва для нашай краіны?


Талін

На нядаўнім саміце ў Капенгагене, як кажуць, святкавалася не проста пашырэнне ЕС на поўдзень і ўсход, а аб'яднанне кантынента. Еўропа паклала канец штучнаму, жорсткаму і надта дарагому размежаванню, ад якога цярпела некалькі дзесяцігоддзяў.

Польшчы, Чэшскай Рэспубліцы, Венгрыі, Славакіі, Літве, Латвіі, Эстоніі і Славеніі, а таксама Мальце і Кіпру аб'явілі, што 1 траўня 2004 года яны могуць далучыцца да ЕС. Такім чынам, у саюз увальюцца яшчэ 73 мільёны грамадзянаў.

Сумарная дапамога новай «дзясятцы» абыдзецца прыкладна ў 5,5 мільярдаў еўра на працягу першых трох гадоў, як толькі ўнёскі новых сяброў будуць улічаны ў агульнай скарбонцы ЕС. Гэта ўсяго 0,07% ад агульнага паказчыка ВНП, ці 15 еўра на год на кожнага грамадзяніна ЕС, маленькая частка сумы, выдаткаванай ЗША па плане Маршала на аднаўленне Заходняй Еўропы пасля Другой сусветнай вайны. Гюн Верунген, камісар па пашырэнні саюзу, адзначыў: «Гэта надта малая плата за дэмакратычную уніфікацыю нашага кантынента, забеспячэнне міру і росквіт нашых бліжэйшых суседзяў, якія заўсёды належалі да Еўропы, але сілай утрымоўваліся за Берлінскай сцяной».

Такі гістарычны момант мусіў быць падставай для радасці. Аднак узнікла адчуванне, што чагосьці не хапае. Магчыма, справа ў тым, што Еўропа пакуль што не можа зразумець, што чакае ў будучыні Еўрапейскі Саюз, які пераўтвараецца з элітарнага клубу 15 дзяржаваў у шматбаковую арганізацыю, сябрамі якой будуць як мінімум 25 краінаў.

Ужо склалася разуменне, што Еўропа – гэта адначасна геаграфічная прастора і дэмакратычны праект. Але, як засведчылі дэбаты па пытанні аб прыёме Турцыі, геаграфічныя межы Еўропы пакуль не акрэсленыя. Кантынент разрываецца паміж звычайнай геаграфіяй і геаграфіяй каштоўнасцяў. З аднаго боку, Турцыя размешчана за межамі еўрапейскага кантыненту, з другога – Анкара робіць значныя намаганні, пераймаючы «еўрапейскія «каштоўнасці».



З пункту гледжання геаграфіі і культуры Расія бліжэй да Еўропы, чым Турцыя, а з гледзішча палітыкі і эканомікі – далей за яе. Анкара пакуль не выплаціла даўгі армянскаму народу, а Расія наогул да сёння не вызначыла сваіх пазіцыяў па пытаннях дэмакратычнай падсправаздачнасці і імперскай палітыкі.

Працэс стварэння дэмакратычных інстытутаў у Еўропе ідзе з вялікімі цяжкасцямі. Ёсць яшчэ адна непрыемная фундаментальная праблема. Еўропа спрабуе здзейсніць сваю мару аб адзінстве, аднаўляючы прымхі і стэрэатыпы мінулага. Простыя грамадзяне паступова робяцца ў большай ступені «еўрапейцамі», але палітычная і адміністратыўная эліта адраджае традыцыі і палітыку «раўнавагі сілаў».

Лёгка зразумець, чаму ўрад Польшчы намагаўся атрымаць ад ЕС як мага болей фінансавай дапамогі. Палякі добра разумеюць, як працуе ЕС. У Капенгагене яны таргаваліся гэтак, нібыта ўжо сталі сябрамі саюзу.

Павелічэнне бягучага рэжыму субсідыяў двум мільёнам польскіх сялян прывёў бы ЕС да банкруцтва, палякі (і ўсе навічкі) атрымаюць усяго 25% субсідыяў, якія выплочваюцца іншым краінам, і да 100 працэнтаў падымуцца толькі на працягу 10 гадоў, хоць падаткі ЕС будуць плаціць спаўна, пачынаючы з першага дня. З гэтай прычыны палякам і літоўцам прыйдзецца на роўных канкураваць з прадукцыяй Францыі ці Галандыі, якія даюць юльшыя субсідыі. Такая нароўнасць выклікала абурэнне ва ўсёй Усходняй Еўропе і гэтак атруціла атмасферу свята, што можа адбіцца на рэферэндумах аб уступленні ў саюз.


Вільня

У той час як «буйныя дзяржавы» адрадзілі палітыку «раўнавагі сілаў», невялікія краіны намагаюцца адстойваць свае інтарэсы. Яны пачынаюць сумнявацца, што інтэграцыя Еўропы дазваляе ім абараніць сябе ад «буйных дзяржаваў». Пасля пашырэння ЕС стануць прыярытэтнымі такія пытанні, як лёс Калінінграда і канфлікт на Блізкім Усходзе.

У нацыянальных урадаў можа ўзнікнуць жаданне прымяніць тактыку «раўнавагі сілаў» не толькі ўнутры саюзу, але і за яго межамі. З практычнага пункту гледзішча колькасць насельніцтва ЕС хутка перабольшыць колькасць насельніцтва ЗША і Японіі разам. Калі сябрам ЕС стане Турцыя, то перавага будзе вельмі істотная.

**Financial Times**


Варшава

*Зайздросціць ці не зайздросціць нашым бліжэйшым суседзям, якія праз год будуць жыць у Еўрапейскім Саюзе? Пакуль што мы, як «нармальныя героі», ідзем у абход. Калі дойдзем – таямніца наступнага часу.*


Прага

рычнага асвятлення, а таксама дзверы на пад'ездах жылых дамоў. У вітрынах невялікіх прыватных крамаў вісяць плакаты тых кандыдатаў, да якіх прыхільныя гаспадары.

Апоўначы ў людных месцах пачынаецца сапраўдная барацьба. Некаторыя плакаты вісяць некалькі хвілін, іх тут жа заклейваюць іншымі. Плакат, які апошнім перад поўначчу ў пятніцу быў наклеены, застаецца вісець надалей, бо за дзень да выбараў наступае «перадвыбарчая цішыня»: забараняецца весці агітацыю, раздаваць улёткі, развешваць плакаты.

### Вячэра з Ежы Крапевніцкім

Лодзь – буйны прамысловы горад у Польшчы. Асаблівы гонар гараджан – вуліца Пятковска. Будынкі адрэстаўраваныя, быццам бы наноў пабудаваны. На ёй няма аўтамабільнага руху. На першых паверхах знаходзіцца безліч розных невялікіх крамаў, салонаў, каварняў. Шмат рэкламы, але зроблена яна з густам.

Увечары мы былі запрошаны на вячэру. Пан Януш Томашэвскі паабяцаў цікавую сустрэчу з надзвычай цікавым чалавекам. Ежы Крапевніцкі – сапраўдная легенда польскага супраціву за камуністычнымі часамі ў Польшчы. У 1980-ыя гады ён займаўся арганізацыяй руху Салідарнасці ў Лодзі, быў намеснікам кіраўніка.

Калі ў Польшчы было аб'яўлена ваеннае становішча, актыўна займаўся арганізацыяй страйкаў у Лодзі. За свае дзеянні атрымаў 6 год зняволення. Праўда, яму пашанцавала – у турме знаходзіўся ўсяго 2,5 гады.

На другіх свабодных парламенцкіх выбарах выставіў сваю кандыдатуру і стаў дэпутатам Сойму. Такі ж поспех меў і на наступных выбарах.

Тры разы быў міністрам – міністрам працы, міністрам планавання, міністрам рэгіянальнага развіцця.

Пан Ежы цікава расказвае пра гады станаўлення дэмакратыі ў сваёй краіне, пра тыя цяжкасці, з якімі сутыкалася і сутыкаецца маладая дэмакратыя ў часе развіцця. Раіць прыглядацца да тых суседніх краін, якія раней за нас сталі на шлях дэмакратыі, каб не паўтараць іх памылак.

Некалькімі партыямі і грамадскімі арганізацыямі Ежы Крапевніцкі быў вылучаны кандыдатам на прэзідэнта Лодзі. І хоць да апошніх дзён перад выбарамі па апытаннях у прэсе яго кандыдатура як рэальнага прэтэндэнта не разглядалася, але сам ён быў упэўнены, што выйдзе ў другі тур з 15% галасоў.

На справе, у першым туры ён быў на другім месцы, набраўшы каля 20%, а ў другім туры перамог дзеючага прэзідэнта Кшыштофа Ягеллу.

**Леанарда МУХІНА**

## Асвета

### Школа эканоміі

У пазавучэбны час тэмпература ў школах, ПТВ, тэхнікумах і ВНУ Мінска не будзе пераўзыходзіць 12 градусаў. Апрача таго, тут забаронена ў сталоўках ды кафэ ладзіць усялякія імпрэзы і выкарыстоўваць электранапаляльныя прыборы. Усяго гэтага вымагае план па зніжэнні спажывання энергетычных рэсурсаў у ацяпляльны перыяд.

### Паралельнае паступленне адменяць

Наступная абітурыенцкая кампанія ў нашай краіне будзе праходзіць, хутчэй за ўсё, па-новаму, чымсьці мінулымі гадамі. Цяпер у Міністэрстве адукацыі распрацоўваюцца «Правілы прыёму ў ВНУ ў 2003 годзе», якія прынясуць з сабой шэраг зменаў.

Самае галоўнае, будзе адмененае паралельнае паступленне ў некалькі вышэйшых навучальных установаў, як тое было мінулым летам. У адну ВНУ прадстаўляўся арыгінал школьнага атэстату, у другую і нават трэцюю можна было прынесці ягоную копію. Гэтак зрабіла амаль палова абітурыентаў. Але гэта не значыць, што ў моладзі будзе толькі адзін шанец паступіць. Рэч у тым, што прыёмная кампанія ў ВНУ пройдзе ў некалькі этапаў. Спачатку ад 1 да 15 ліпеня іспыты пройдуць у галоўных вышэйшых навучальных установах Беларусі – у Беларускі дзяржуніверсітэт, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце, Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт, педуніверсітэт, медінстытут і іншыя. Пры канцы ліпеня і напачатку жніўня ўступныя экзамены адбудуцца ў астатнім шэрагу дзяржаўных ВНУ і трохі пазней – у недзяржаўных.

Акрамя таго, вельмі верагодна, што прыёмныя экзамены будуць праводзіцца гэтым разам па 10-бальнай сістэме.

### Вучням падабаюцца «дзесяткі»

Паводле словаў намесніка міністра адукацыі Казіміра Фарыно, усе вучні і 86 працэнтаў іхніх бацькоў ухваляюць укараненне ў школах 10-бальнай сістэмы ацэнкі ведаў. Між тым ён такім чынам пракаментаваў частыя факты, што настаўнікі не ставяць вучням вышэйшыя балы: «ніякіх абмежаванняў пры выстаўленні адзнак быць не павінна».

### Казулін: адной нагой у Нью-Йорку

Рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Аляксандр Казулін ледзьве не стаў пастаянным прадстаўніком Беларусі ў ААН.



Ягоную кандыдатуру на гэтую пасольскую місію ўжо былі зацвердзілі ў абедзвюх палатах Нацыянальнага сходу. Апошняе слова заставалася за прэзідэнтам, і той Казуліна ў Нью-Йорк не пусціў.

Пакуль Аляксандр Лукашэнка думаў пра лёс рэктара БДУ, папаўзлі чуткі, што універсітэт можа ўзначаліць былы пасол у Японіі і на Філіпінах Пётр Краўчанка. Але з ім выйшаў палітычны скандал. Дарэчы, палітычная падкладка была і сярод самых папулярных версіяў гэтак і не спраўджанай адстаўкі А.Казуліна. Ён трапіў у пэўную апалу яшчэ адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001 года, калі універсітэт пазбавілі статуса міністэрства, а А.Казуліна – адпаведна статуса міністра.

Пра апалу сведчыць і той факт, што Аляксандр Лукашэнка, які распачаў нядаўна цыкл сустрэчаў з беларускім студэнцтвам, першым разам сустрэўся не з тымі, хто вучыцца ў БДУ, які лічыцца галоўнай ВНУ краіны, а са студэнтамі «наргасу».

Між тым, многія аналітыкі называюць Аляксандра Казуліна адным з мажлівых і канкурэнтаздольных прэтэндэнтаў на прэзідэнцтва. Мо таму яго і хацелі выправіць куды падалей з краіны ў так званую ганаровую ссылку, але потым чамусьці перадумалі. Але, здаецца, што Казулін дагэтуль адной нагой у Нью-Йорку.

Сам прэзідэнт, выступаючы ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, калі лёс Казуліна быў за туманам, тлумачыў верагодную адстаўку рэктара адной з вядучых вышэйшых навучальных установаў такім чынам: «ён не здолеў у прэзідэнцкай ВНУ выканаць пастаўленыя мной патрабаванні і задачы, каб там усё было па максімуме чыста і чэсна... Крок улева, крок управа: вы ведаеце, колькі людзей пайшло ў наручніках з ВНУ, уключаючы рэктараў».



«Дараваны» – так называецца гэтая карціна на тэму адносінаў Бога да чалавека. Яна аздабляе Царкву хрысціян Веры Евангельскай «Ласка Божая Хрыста» (Мінск, вул. Карбышава, 42)

# Ісус шукаў прытулку...

Епіскап англіканскай царквы асудзіў сентыментальныя калядныя паштоўкі. Святая сям'я шукала прытулку, сцвярджае ён, а вешчуны былі ўдзельнікамі змовы, якая мела на мэце забойства.

Епіскап Лічфілдскі, высокашаноўны прападобны Кіт Сатан, заявіў, што вешчуны былі зусім не станоўчымі персанажамі, якіх гэтак соладка любяць паказваць на паштоўках, прымеркаваных да свята Нараджэння Хрыста, а бруднымі «адкідамі грамадства» і што для бальшыні Нараджэнне Хрыстова – гэта суровае выпрабаванне.

Ён кпліва выказаўся пра «павярхоўныя і фальшывыя» малюнкі і песні «аб маленькім бездапаможным немаўлятку», маці якога «на прыгожым віслюку» прыбыла ў хлеў, «поўны міленькіх жывёлін». Па сутнасці, сказаў епіскап, Ісус быў народжаны па-за шлюбам жанчынай з рэлігійнай сям'і, «з усімі культурнымі і сацыяльнымі, цяжкімі для яе наступствамі, якія з гэтага вынікаюць». Цяжарнай Марыі давялося доўга вандраваць «на самым няпрыдатным транспарце, які толькі можна ўявіць».

Вешчуны «мелі даручэнне ад Ірада даведацца пра месцазнаходжанне Ісуса і забіць яго». Марыя і Іосіф былі вымушаны «ратавацца ўцёкамі ў Егіпет, бо Ірад пільна сачыў за забойствамі невінаватых немаўлятаў, жадаючы быць упэўнены ў смерці маленькага Хрыста».

У сваім Калядным пасланні, разасланым у сродкі масавай інфармацыі праз электронную пошту, 67-гадовы епіскап заявіў, што Ісус стаў бежанцам, каб не быць забітым, як «асуджаны злачынца». З гэтага вынікае, што Госпад пераўтварыў сваю любоў да чалавецтва ў пакутлівае фізічнае дзеянне. «Вось чаму мы ведаем, што салодкае сентыментальнае Нараджэнне Хрыстова, якім яно паўстае ў песеньках і на паштоўках, – хлусня», – сказаў епіскап Кіт Сатан.

«Ці шмат хто з нас і сапраўды адчувае радасць на Каляды? Калі быць з сабой шчырым, разумееш, што Нараджэнне Хрыстова – гэта сапраўднае выпрабаванне. А для некаторых нават болей, чым выпрабаванне, – гэта самы балючы час года». Заклікаючы людзей зрабіць што-небудзь карыснае для тых, хто нешчаслівы і самотны, епіскап патлумачыў: «Для сапраўднай любові мае значнасць не тое, што ты думаеш, а тое, што ты робіш».

**Daily Telegraph**




Такія паштоўкі епіскап Кіт Сатан лічыць «салодзенькай» хлуснёй

# Пад эгіду дзяржавы

Падчас нядаўняй сустрэчы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з Сінодам Беларускай праваслаўнай царквы маскоўскага патрыярхата (БПЦ) бакі дамовіліся аб падпісанні адмысловага пагаднення паміж дзяржаваю і праваслаўнай царквою.

Такім чынам, саюз улады і БПЦ можа замацавацца юрыдычна, што можа значна паўплываць на стан нашага грамадства. Тым болей, што гэтым годам быў прыняты закон «Аб свабодзе веравызнання і рэлігійных аганізацыях», які сарыентаваны найперш на падтрымку праваслаўнай царквы. Пагадненне, як было заяўлена падчас сустрэчы, будзе падпісанае ў студзені-лютым надыходзячага году. Як закон, гэтак і спланаванае пагадненне ўвасабляюць працэс абдзяржаўлення БПЦ у Беларусі. Таму зразумела, чаму да наведання прэзідэнтам рэспублікі царкоўнага Сіноду і выказванняў, што там прагучалі, грамадства выказвае вялікую цікаўнасць.

Аляксандр Лукашэнка сказаў, што падтрымлівае прапанову БПЦ аб падпісанні пагаднення паміж царквой і дзяржавай, у якім павінны быць акрэсленыя формы, метады, накірункі і сферы прыкладання агульных намаганняў. Прэзідэнт Беларусі не лічыць царкву «арганізацыяй, якая супярэчыць прынцыпам дзяржавы». «Я ніколі не аддзяляў царкву ад вырашэння дзяржаўных пытанняў, а наадварот, адзначаў, што наша царква ў апошні час з'яўляецца актыўным удзельнікам тых пераўтварэнняў, што адбываюцца ў нашай дзяржаве», – адзначыў ён.



Па словах прэзідэнта, «наша царква – часцінка нашага народа, нашай Айчыны і, калі жадаеце, у сваёй дзейнасці яна з'яўляецца часцінкай нашай дзяржавы», а ён мае намер «заўсёды падтрымліваць такія рэлігійныя, грамадскія арганізацыі, якія прыносяць карысць дзяржаве».

Прэзідэнт дадаў, што «мы і далей будзем рабіць усё, каб царква магла функцыянаваць у нашай дзяржаве на добрую зайздрасць усіх нашых сяброў і на дзікую зайздрасць усіх нашых ворагаў». Аляксандр Лукашэнка лічыць, што органы дзяржаўнай улады, урад, адміністрацыя прэзідэнта «упускаюць шмат якія пытанні ідэалагічнай працы і, у першую чаргу, праз сродкі масавай інфармацыі». Прэзідэнт нагадаў, што 2003 год абвешчаны «годам наведзення парадку і добраўпарадкавання ў рэспубліцы» і прапанаваў царкве ўзяць адпаведны удзел у гэтых мерапрыемствах.

Як сказаў А.Лукашэнка, яго «падкупае адкрытасць Беларускай праваслаўнай царквы», і найперш у пытаннях патрыятычнага выхавання. «Тыя, хто ставіць сёння перад сабой мэту раскалоць царкву, не дамогуцца гэтага», – падкрэсліў прэзідэнт. Ён заявіў, што «тут будзе ўжытая ўся сіла ўлады, бо адзінства Царквы – гэта заклад адзінства нашага грамадства і бяспекі дзяржавы». «Вы можаце цалкам разлічваць на маю падтрымку. Калі неабходна, я буду ісці наперадзе, каб захаваць наш самы вялікі набытак – адзінства нашага грамадства» – сказаў прэзідэнт, звяртаючыся да членаў Сіноду БПЦ.

Як адзначыў у сваёй прамове ачольнік Беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліт мінскі і слуцкі Філарэт, «Царква ўсведамляе, што без падтрымкі кіраўніцтва рэспублікі лёс закона «Аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацыях» і надалей меўся б быць невядомы». Па словах мітрапаліта, гэты закон дае «дадатковыя магчымасці для абароны грамадзянаў ад экспансіі псеўдарэлігійных сілаў і адкрывае новыя перспектывы супрацоўніцтва паміж дзяржавай і царквой». Мітрапаліт паведаміў, што БПЦ вельмі непакоіцца пастаяннымі спробамі справакаваць царкоўны раскол, аслабіць духоўнае і кананічнае адзінства Рускай праваслаўнай царквы маскоўскага патрыярхата ў Расіі, Украіне і ў Беларусі. Мітрапаліт удакладніў, што гаворка ідзе аб «аўтакефальнай царкве».

Аглядальнікі лічаць, што праваслаўная царква марыць скарыстаць сілу дзяржаўных органаў супраць «раскольнікаў» і такім чынам умацаваць свае пазіцыі, не страціць значную частку вернікаў, якія жадаюць мець самастойную Беларускую праваслаўную царкву, а не правінцыйнае (экзархат) аддзяленне Рускай праваслаўнай царквы.

**Па матэрыялах прэсы**

Вольга ІПАТАВА

# Віленскія пакутнікі



## *Урывак з рамана*

Кумец любіў маці і бацьку. Ён любіў гульбішчы, калі жанілі Цярэшку ці гукалі вясну і калі можна было прыціскацца да пругкай і гнуткай, як маладая вярбіна, дзеўкі. Няважна, хто была яна – дачка баярына ці прыдворнага блазна, ці – аднойчы – нават дачка вялікага князя. Ён любіў сустракаць усходы, калі пасля бяссоннай ночы, праведзенай у княскім скрыпторыі, добра было глядзець, як павольна, велічна ўстае з-за сінаватай, пасыпанай ружовым попелам хмары залаты бог сонца Сур`я*. Любіў блінцы, посную драчону на макавым малацэ, флячкі – рубцы з падліўкай... І пергамены, на якіх пісцы золатам і кінаварам выводзілі літары. Ведаў ён хвіліны найвялікшай радасці, калі браўся чытаць вяроўчатае пісьмо, якое памяталі ўжо не многія жрацы... Любіў таксама свае варцобы з рога тура, залатую чашу для пітва. І многае іншае, што шчодра даваў яму свет.

Але ніколі, ніколі не абымала яго душу такая гарачая пяшчота да навакольнага, ніколі не поўнілася ягонае сэрца такой спагадай... У гэтую хвіліну, што, здавалася, доўжылася вечна, ён узгадаў свайго старога служку Вусеня, якога ён штурхануў што сілы, калі той, падаючы брэцьяніцу з медзяным пітвом, праліў трохі вільгаці на яго шытыя золатам парты. Тады Вусень, адляцеўшы да сцяны і ўдарыўшыся ў яе так, што заняло дых, ссунуўся на падлогу і смешна лыпаў вачыма, стараючыся хапануць паветра, а яны, маладыя, весела рагаталі з яго ссінелага маршчыністага твару і каравых рук, якія варушыліся, як клешні ў злоўленага рака. Успомнілася Кумцу і тое, як, палюючы на мядзведзя, зlavілі яны, маладыя баяры, у князевых уладаннях смерда, што ўпаляваў зайца, і як, абкружыўшы яго, штурхалі коньмі на сярэдзіну кола, а ён, утоптваючы снег сваімі каленямі, дзе на пералатаных портах адразу ж зацьмянелі вільготныя кругі, маліў - прасіў аб дараванні. Ды не – яны, гікаючы, у рэшце рэшт затапталі яго і, не сышоўшы з коней, паімчаліся прэч, гнеўныя, але задаволеныя... І яшчэ, і яшчэ...

Як не абарвалася ў яго сэрца, бо моцным штуршком у грудзі ўдарыла так, як быццам усе ягоныя правіны абярнуліся жалезам і пацягнулі некуды ў бездань, як няшчаснага, што ў латах трапіў пад лёд.

— Што з табою, сыне?

Толькі тады Круглец заўважыў, што і бацька, і архірэй Нікас пільна глядзяць на яго.

— Ты збялеў. Табе блага?

З цяжкасцю прамаўляючы, ён азваўся:

— Штосьці ў грудзях... Даўка...

Архірэй узяў ягоныя рукі, склаў вялікі і ўказальны пальцы. Сціснуў іх. Ад гэтага служкі хрысціянскага бога пахла духмянымі зёлкамі, ягоная простая чорная вопратка, аздобленая толькі залатым медальёнам на тоўстым ланцужку, здалася Кругляцу светлай. І ён абвострана, амаль празорліва, адчуў у гэтым высокім, худым, з пранізлівымі чорнымі вачамі грэку часцінку тае магутнай, спагадлівай, усё даруючай сілы любові, якой так неспадзявана напоўнілі яго душу багі. Багі? Не, тут іх няма – ні Перуна з яго залатой барадой і сярэбранымі вусамі, ні Вялеса з нагамі, запырсканымі крывёй ахвяр, ні ўладаркі мораку і смерці Мары... Тут ёсць толькі адзін бог, загадкавы Хрыстос, які спалучае ў сабе ажно тры сілы, тры іпастасі. Але яму, Кругляцу, у гэтым ніяк не разабрацца. Гэта занадта складана і ... і ўвогуле яму непатрэбна. Ён жыве сярод свайго, звыклага, знаёмага, і нашто яму мучыцца загадкамі – чаму людзі пакланяюцца мёртваму богу, богу, які настолькі бездапаможны, што не мог нават сам абараніць сябе? Дзе была яго сіла, якой ён мог страсануць свет і паказаць усім сваю магутнасць? А калі не паказаў – значыць, ён слабы. У свеце ж шануюць толькі сілу. Слабы проста не выжыве. Ды і што такое слабы чалавек? Ягонае месца – за спінамі моцных, яго слова нічога не вартае...

Але не сыходзіў з сэрца ўспамін аб імгненні, у якім ён шкадаваў усіх – слабых жа асабліва. Ці такі ўжо вінаваты быў той смерд, якому трэба было карміць шасцёра дзяцей? Ці справядліва гэта – плаціць жыццём за жыццё, калі на адных вагах – заяц, а на другіх – бацька шасцярых дзяцей?

І ён нечакана для сябе схіліўся перад грэкам, дакра-



# Паланез ля мінор

## *180 гадоў знакамітаму «Развітанню з Радзімай»*

**Кастусь ТАРАСАЎ**

У 1872 годзе Ілля Рэпін намаляваў вялікае палатно «Славянскія кампазітары», якое цяпер аздабляе канцэртную залю імя П.Чайкоўскага ў Маскве. Сярод 23 выдатных творцаў музыкі з розных краінаў і розных часоў паказаны і Міхал Клеафас Агінскі. Яго музычная спадчына складае болей за 60 твораў, але шырокую вядомасць прынесла кампазітару адно – паланез «Развітанне з Радзімай». Смутак аб стратах, асэнсаванні спадзеяў і расчараванняў, залежнасці лёсу ад абставінаў і чужой волі – усё разам знітаванае сакральна адлюстравалася ў мелодыі, якая ўвайшла ў залаты фонд сусветнай культуры. У таямнічай мелодыі паланеза адлюстраваўся і лёс яго стваральніка, гэта яго пазначанае нотнымі знакамі жыццяапісанне.

### *Паходжанне*

Род Агінскіх вядзе пачатак ад той чарнігаўскай лініі Рурыкавічаў, якая княжыла ў Казельску, знакамітым мужнай абаронай ад войска хана Батыя. Татары сем тыдняў стаялі перад Казельскай цвердзю. Калі яны нарэшце разбілі сцены, казельцы рынуліся з вала на войска, пасеклі 4 тысячы татараў і самі палеглі ў бітве. Няшмат гарадоў выказалі гэтакую мужнасць. Безумоўна, вялікі гонар лічыць сваю радавую гісторыю з той падзеі і ад тых людзей.

У Вялікім княстве Літоўскім нашчадкі князёў Казельскіх былі прынятыя ў 16 стагоддзі і атрымалі маёнтак Агінты, па якім, згодна з тагачаснай традыцыяй, пачалі менавацца як князі Агінскія з Казельска. Пачаткова яны былі праваслаўныя, а ў 17 стагоддзі, як і шмат іншых беларускіх магнатаў, перайшлі ў каталіцтва.

Бацькам кампазітара быў Андрэй Ігнаці Агінскі, староста трокскі, пасол у Пецярбургу і Вене. У 1763 годзе ён ажаніўся са слыннай прыгажуняй Паўлінай Шамбек, якая да таго часу была замужам двойчы і мела двух сыноў. З другога шлюбу з графам Патоцкім ёй дастаўся маёнтак Гузаў блізка Варшавы, дзе 7 кастрычніка 1765 года нарадзіўся і правёў дзяцінства Міхал Клеафас.

### *Дыктат абставінаў*

Належачы да супольнасці самых магутных фамілій Вялікага княства, Агінскія ведалі сваю кар'еру, яшчэ лежачы ў калысцы. Таму не дзіўна, што Міхал Клеафас у 14 год атрымаў тытул мечніка літоўскага, а ў 21 год стаў дэпутатам сейму Рэчы Паспалітай ад Трокскага ваяводства. Дзеля параўнання варта нагадаць, што яго дзядзька Міхал Казімір Агінскі, атрымаў чын афіцэра коннага палка і ўрад чашніка літоўскага 14-гадовым падлеткам, у 18 гадоў займеў урад палявога пісара ВКЛ і патэнт генерал-маёра, а дэпутатам на сойм паехаў 16-гадовым юнаком. Затое Міхал Клеафас у 21 год патрапіў у фінансавую камісію сойму, а напярэдадні 25-годдзя яго накіравалі з дыпламатычнай місіяй у Галандыю.

Гадавая замежная паездка прынесла Міхалу Клеафасу славу ўдачлівага дыпламата і фінансіста (напазычаў тры мільёны дукатаў для дзяржавы), і таму яго дзядзька Міхал Казімір, вялікі гетман літоўскі, больш вядомы як музыкант-віртуоз і кампазітар, адступіў яму ў Беларусі і Літве свае маёнткі пры ўмове выплаты 8 мільёнаў рублёў даўгоў і працэнтаў у суме 4,6 мільёна рублёў.

Але Міхал Клеафас таксама быў адораны музыкант і кампазітар, і таму не надта рупіўся пра дзядзькаву гаспадарку, да таго ж наступныя падзеі і ў Польшчы, і ў Еўропе прывялі да эканамічнага крызісу. Дзядзька моцна памыліўся ў сваіх разліках атрымаць жывыя грошы, болей за тое, ён шмат згубіў на дамове з пляменнікам, які дзеля аплаты працэнтаў шмат дзядзькавай маёмасці проста прадаў (Ракаў, Іўе, Індуру, Заполле, палацы ў Вільні і Гродне, млыны ў асобных маёнтках). З матэрыяльных жа меркаванняў у чэрвені 1791 года, калі Кацярына наведвала Магілёў, заспяшаўся туды і малады Агінскі і прынёс прысягу на вернасць імператрыцы, каб захаваць тыя маёнткі, якія апынуліся на землях Беларусі, што адышлі да Расіі.



Помнік Міхалу Клеафасу [illegible] вучэльні у Маладзечне

У 1792 годзе той самы клопат прымусіў Міхала Клеафаса прыняць бок таргавіцкай (прарасійскай) канфедэрацыі. Для абароны эканамічных інтарэсаў Агінскі нават ездзіў у Пецярбург. Тут якраз захапляліся яго паланезам фа мажор, ён быў прыняты Кацярынай II і вырашыў свае справы, прыняўшы ўмовы расійскага боку, якія прадыктаваў яму фаварыт імператрыцы Платон Зубаў. У першую чаргу яны датычалі адмовы ад гетманства ягонага дзядзькі, які не вылучаўся лаяльнасцю да Расіі. Прапанова палягала ў тым, што гетманства ад старога Міхала Казіміра перадаецца Міхалу Клеафасу, а той перадае яго стаўленіку імператрыцы Шыману Касакоўскаму. Самому ж Міхалу Клеафасу дастанецца ўрадавая пасада падскарбія вялікага літоўскага (міністра фінансаў ВКЛ), і тады таргавічане вяртаюць Агінскім канфіскаваныя раней маёнткі. Дзядзька, загразлы ў даўгах, за сваю адмову ад гетманства ўзяў з пляменніка 300 тысяч злотых. Узяў хабар і Зубаў.

Тым часам адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай паміж Расіяй і Прусіяй. Кацярына II вырашыла, што ён павінен быць ухвалены польскім сеймам. Сейм цягнуўся з чэрвеня па снежань 1793 года ў Гродне. Міхал Клеафас стараўся ўнікнуць непрыемнага абавязку паставіць свой подпіс пад ганебным Актам аб другім падзеле. Але расійскі куратар акцыі Сіверс адшукаў яго ў варшаўскім маёнтку і пагражаў даставіць на сейм пад вартай. Агінскі падпарадкаваўся.

Падзел выклікаў паўстанне ў Польшчы, Літве, Беларусі. У станоўчы зыход паўстання Агінскі не верыў, адпаведна не бачыў сэнсу браць у ім удзел. Папярэджаны сябрамі пра час выступлення паўстанцаў ён напярэдадні, а трэцяй гадзіне ночы 22 красавіка 1794 года, разам з жонкай і слугамі выехаў з Вільні і планаваў выбрацца ў Прусію, але на памежным пункце яго затрымалі. Жонцы дазволілі ехаць далей, а князя Агінскага афіцэр памежнай службы Гушча даставіў у Гродна, абвясціўшы ўцекача модным тады французскім выразам «вораг народу». За ўцёкі з краіны ў часе паўстання над Агінскім навісла небяспека смяротнага пакарання. Выручыў яго ад магчымай ганьбы канцлер Вялікага княства Іаахім Храптовіч. Але Агінскаму праз гады давялося трываць непрыемныя для пачуцця гонару наступствы гэтага інцындэнту. Болей за тое, нейкі дасціпнік нарадзіў кплівую прымаўку «Гушча не пусціў у пушчу», якая ўвайшла ў шырокі ўжытак, і сучаснікі Агінскага маглі дакладна растлумачыць яе паходжанне.

Няправільны крок дорага каштаваў. Нават праз дваццаць сем гадоў у мемуарах Міхал Клеафас палічыў неабходным патлумачыць сваё з`яўленне на прускай мяжы просьбай жонкі вывезці яе з тэрыторыі ваенных дзеянняў, а паводзіны мытніка Гушчы – асабістай помстай. Тым болей адразу па затрыманні было неабходна пазбавіцца плямы на рэпутацыі. Выхад быў адзін – выказаць асабістую храбрасць і вернасць ідэалам паўстання. Агінскі далучыўся да «віленскіх якабінцаў», апынуўся ў складзе паўстанцкай Вышэйшай Літоўскай Рады і прылюдна адмовіўся ад пасады міністра фінансаў, якую бальшыня народу традыцыйна ўспрымала як сведчанне схільнасці яе носьбіта да жульніцтва. Не магла даць радасці і прысутнасць на пакаранні таргавічанаў, асабліва гетмана Касакоўскага, якому гэтую пасаду сам і адступіў. Пазбягаючы прымусовай канфіскацыі маёмасці на карысць паўстання, Агінскі ўласнай воляй ахвяраваў 118 тысяч злотых на ўзбраенне коннага палка, а яшчэ сфармаваў, апрануў і ўзброіў за свой кошт батальён стральцоў у 480 чалавек, якія сам і ўзначаліў. Свой родавы герб «Брама» на пячатцы ён замяніў на дэвіз «Свабода, вернасць, незалежнасць», а ў рэчышчы якабінскіх правілаў нават у лістах да жонкі скарыстоўваў зварот «Грамадзянка Ізабэла Агінская!»

Запаляючыся паўстанцкімі настроямі, Міхал Клеафас прапанаваў план рэйду у тыя паветы Беларусі, што былі далучаныя да Расіі па першым і другім падзелах. На Міншчыне і Магілёўшчыне знаходзіліся вялікія, секвестраваныя Расіяй уладанні Агінскіх. Міхал Клеафас меркаваў, што калі абвесціць тутэйшым сялянам волю, дык у паўстанцкае войска заахвоцяцца пайсці не меней чым 12 тысяч чалавек. Чамусьці ўсе верылі, што гэта магчыма. А самае дзіўнае, што Ясінскага не засмуціла поўная адсутнасць ваеннага досведу ў нядаўняга міністра фінансаў, які ніколі не стаяў у шыхтах.

На пачатку чэрвеня Агінскі з трыма сотнямі стральцоў свайго батальёна і дзвюма сотнямі кавалерыі выступіў у мінскім кірунку. Першая сутычка здарылася ў Валожыне, дзе вынішчылі купку казакоў. Наступным пунктам паходу стаў Івянец. У мястэчку, пакінутым гарнізонам, батальёну дасталіся назапашаныя расійскімі вайскоўцамі прыпасы. Здабыча складала 200 вазоў. Замест таго, каб працягваць рух на Маладзечна (дзе можна было даць волю сялянам свайго маёнтку і ўзмацніцца), Агінскі павёў абоз на злучэнне з асноўнымі сіламі Ясінскага. Праз два дні пад Вішневым абоз дагналі і разбілі расійцы пад камандай Мікалая Зубава і Леона Бенігсена. Ад атрада засталіся рэшткі кавалерыі і 150 стральцоў.

Наступнай справай Міхала Клеафаса стаў рэйд на Браслаўшчыну. Яго атрад узмацніўся павятовымі рушэннямі, войска складала да тысячы конных і паўтары тысячы пяхоты. Агінскі вырашыў захапіць Дзвінск. Расійскі гарнізон, аднак, здолеў даць адпор, і паўстанцам давялося адступаць. На гэтым баявы шлях Агінскага быў завершаны. З аддзела стральцоў загінулі ў сутычках 440 чалавек. Сам Міхал Клеафас застаўся ў жывых цудам, але ўратаваў гонар, набыў славу небяспечнага інсургента, і расійская ўлада адрэагавала загадам на яго вышук і арышт.

### *Першы шлюб*

У 1788 годзе Міхал Клеафас ажаніўся з Ізабэлай з Ласоцкіх. У гэтым шлюбе меў ён сыноў Тадэвуша Антонія і Францішка Ксаверыя. Напачатку лёс спрыяў маладым. Міхала Клеафаса ўсюды цёпла прымалі, ён выдатны музыкант, прывабны, добра адукаваны і выхаваны малады чалавек, яму давяраюць пасольства ў Галандыю, разам з Ізабэлай яны падарожнічаюць у Англію, іх прымаюць на каралеўскіх дварах, яны абкружаныя раскошай. Аднак спадчына па бацьку давала Міхалу Клеафасу 50.000 злотых штогод. ён жа выдаткоўваў непараўнальна болей, бо трымаў у Варшаве двор, шасцерыкі коней, службу, ладзіў прыёмы, запрасіў і паўтары гады аплочваў венскага піяніста Йосіфа Вельфле. У Галандыі за ўласны кошт набываў мэблю, абслугу, здымаў палац. Каб усё гэта аплаціць, давялося лезці ў пазыкі. Толькі ў Амстэрдаме Агінскі набраў для сябе і зводнага брата пазыкаў у мільён дукатаў, якія, дарэчы адзначыць, ніколі не вярнуў. Замест Агінскага іх выплаціў расійскі ўрад, калі секвестраваў яго маёнткі.

Пасля разгрому войска Касцюшкі пад Мацяёвіцамі Агінскі з чужым пашпартам выехаў у Вену, дзе яго чакала жонка, адтуль яны скіраваліся ў Венецыю. У гэты час яго дзядзька, былы гетман, у якога адняла Слонім пад губернатарскую рэзідэнцыю, не жадаючы згубіць усё, прысягнуў на вернасць Кацярыне і папрасіў імператрыцу разарваць яго дамову з пляменнікам, каб мог вярнуць хоць бы частку сваіх маёнткаў. Кацярына задаволіла гэтую просьбу.

У Венецыі Агінскія пасяліліся ў гатэлі «Каралева Англіі». Сюды яму быў дасланы расійскі пашпарт з лістом ад А.Суворава, які паведамляў, што яго



Былая сядзібная капліца ў Залессі (цяпер – мясцовы касцёл)

маёнткі не будуць рэквізіраваныя, калі ён падпіша ліст пра вернасць Кацярыне. Агінскі адмовіўся, яго маёмасць канфіскавалі, ён страціў каля аднаго мільёна злотых гадавога даходу. Ягоны слуга прывёз яму ў Венецыю рэштку багацця – 2 тысячы дукатаў. Па тагачасных мерках Агінскі апынуўся на мяжы галечы. З гэтае прычыны Міхал Клеафас адаслаў жонку ў Польшчу, дзе яна пасялілася ў маёнтку бацькі. Сам Міхал Клеафас мусіў пайсці на французскую дыпламатычную службу, хоць і неафіцыйную.

Пад прозвішчам француза Яна Рыдзеля Агінскі едзе ў Стамбул дзеля перамоваў пра магчымы ўдзел Турцыі ў кааліцыі Францыі, Польшчы і Швецыі супраць Расіі і Аўстрыі. Не дамогшыся пэўнага адказу за дзевяць месяцаў, Міхал Клеафас ужо пад прозвішчам купца месье Мартэна едзе ў Бухарэст на сустрэчу з французскімі дыпламатамі. Потым пад прозвішчам вандроўнага музыканта Рачыньскага выязджае ў Галіцыю, каб актывізаваць тут фармаванне польскіх легіёнаў. Напачатку 1797 года, ратуючыся ад аўстрыйскай паліцыі, Міхал Клеафас скіроўваецца ў Францыю. Парыжскія кантакты дазваляюць яму зразумець, што разлікі на дапамогу напалеонаўскай Францыі для адраджэння Польшчы марныя. Астуджаны ў сваіх спадзяваннях нават міністрам Талейранам, які шчыра параіў яму вяртацца ў Расію і ратаваць маёнткі, Агінскі выехаў у Гамбург. Жонка і сваякі дамагліся дазволу на ягоны ўезд у Польшчу, што была пад Прусіяй, і ён пасяліўся ў маёнтку цесця пад Варшавай.

Шматгадовае безграшоўе і разлука з жонкай паспрыялі развалу сям'і. У дадатак Міхал Клеафас быў слынны прыхільнік жаночай прыгажосці і не абцяжарваў сябе вернасцю перад сужонкай. Усё разам збеглася і прывяло да разводу, які Агінскі нібыта сам ініцыяваў. Гэта здарылася адразу пасля таго, як нарадзіўся яго другі сын Францішак Ксаверы. Неўзабаве Міхал Клеафас, дзякуючы клопатам Адама Чартарыйскага, які сябраваў з Аляксандрам І, атрымаў дазвол на вяртанне ў Расію і перабраўся ў Вільню, а Ізабэла з сынамі засталася за мяжой. Іншым разам, відаць, Агінскі адчуваў пакуты сумлення з такой сітуацыі, бо пісаў мужу дачкі, што сям'ю трэба берагчы, выконваць абавязкі па яе ўтрыманні, інакш будзе гэтак, як здарылася ў першым шлюбе з ім. Праўда, параду гэту зяць атрымаў, калі Міхал Клеафас, ужо састарэлы, самотна жыў у Фларэнцыі.

Лёс быў неміласцівы да Ізабэлы. У другі шлюб яна не ўступала. Ёй выпала пахаваць абодвух сваіх сыноў: Францішак памёр у 1837 годзе, а старэйшы Тадэвуш – у 1844. Ізабэла на год перажыла другую жонку Міхала Клеафаса, а яго самога – на дваццаць гадоў. Лдзі, з якімі было звязанае яе жыццё, пакінулі белы свет, і яе думкі пра маласць шчасця, падман надзей, горасныя мацтчыны страты напаўнялі яе старыя гады смуткам. Цень славы Міхала Клеафаса закрыла няўдачу ейнага лёсу, але тыя, хто аб ёй ведаў, бачылі за гукамі паланеза «Развітанне з Радзімай» і постаць жанчыны, якая спадарожнічала яго аўтару ў шчаслівыя маладыя гады і ў выгнанні.

### Другі шлюб

У другім шлюбе лёс звязаў Міхала Клеафаса з італьянкай Марыей Неры. Сама яна называла сябе княгіня Марыя дэ Неры, але ў сапраўднасці яе бацька трымаў карчму ў Венецыі і падрабляў як гандальер. Яе сустрэў там пасля паўстання 1794 года ашмянскі эмігрант Кaэтан Нагурскі. Марыя вылучалася надзвычайнай прыгажосцю, вакальнай адоранасцю і мела вясёлы характар. Кaэтан палка закахаўся, зрабіў дзяўчыну каханкай, але паабяцаў ажаніцца з ёй. Пасля амністыі, абвешчанай Паўлам для паўстанцаў, ён павёз прыгажуню ў Варшаву. Прыдатная для эміграцыйнага рамана, непісьменная, нешляхетна выхаваная Марыя не адпавядала ўзору дамы, які паважалі на радзіме. Кaэтан зняў для яе дом у Варшаве, аплаціў гувернантак, настаўнікаў мовы і музыкі, а сам паехаў на радзіму. Хворы на жаўтуху, ён ужо не імкнуўся пабрацца з італьянкай, але Марыя Неры прымусіла яго стрымаць абяцанне. Кaэтан меў вялікую спадчыну па браце і бацьку, яна адышла да Марыі Неры, калі Нагурскі памёр. Наступным аб'ектам увагі маладой удавы стаў расійскі губернатар Літвы генерал Леон Бенігсен, той самы, які разбіў атрад Агінскага каля Вішнева. Бенігсен сустракаўся з Агінскім і ў Гродне, дзе ўручаў яму расійскі пашпарт, калі Міхал Клеафас прынёс прысягу на вернасць імператару Аляксандру. Прыняцце падданства паспрыяла, што родны брат бацькі Францішак Ксаверы, які валодаў маёнткамі Залессе, Маладзечна і Рэтаў (у Заходняй Літве), аддаў пляменніку Залессе.

Бенігсен, гановерскі барон на расійскай службе, быў удзельнікам палацавага перавароту, які ўзвёў на трон Аляксандра, і сыграў у ім бадай што самую чорную ролю – менавіта ён ударыў імператара Паўла тытунніцай, а потым задушыў шарфам. Характар у барона, відаць, быў цяжкі, і Марыя Неры знайшла больш прывабным Міхала Клеафаса. У дадатак ён быў на дваццаць гадоў маладзейшы за барона. Яны пажаніліся ў 1802 годзе, калі Марыя абвясціла каханку пра цяжарнасць. У гэтым шлюбе нарадзіліся Амелія (1803), Ірыней Клеафас (1808), Эма (1809), Іда (1813).

За Марыяй Неры ўсе прызнавалі розум, моцную волю, дзейную натуру і прыроджаную адоранасць асобы, якая паўсюды выводзіла яе ў цэнтр увагі, а сярод гаспадынь сядзіб віленскага краю, падпарадкаваных прымхам, яна была унікальным і недасяжным для пераймання ўзорам феміністкі. Італьянскі тэмперамент і свабодныя погляды на жыццё прываблівалі да яе мужчын, але і яна няшмат чым цікавілася за межамі пачуццяў. У яе будуары ў Залескім палацы сцены былі пакрытыя партрэтамі генералаў, афіцэраў, дыпламатаў, мастакоў і спевакоў, пра якіх яна шчыра паведамляла сваім гасцям, што гэта выявы яе сяброў, з якімі яе яднала каханне.

### Залессе

Першы ўладальнік Залесся з Агінскіх віцебскі ваявода Марцыян Міхал збудаваў тут палац у стылі барока і модны тады «французскі» парк. Гэтае дзедаўскае Залессе здалося Агінскаму занадта старасвецкім, а драўляны палац – няўтульным. Таму ён пачынае будаўніцтва новага двара ў стылі моднага тады класіцызму. Праз тры гады палацавы ансамбль быў пабудаваны.

Побач з французскім паркам быў разбіты новы – у англійскім стылі. Парк аздаблялі альтанкі, імітацыі «руінаў», два мемарыяльныя валуны ў памяць першага настаўніка Жана Ралея і Касцюшкі. Было паявлічана возера, створаны батанічны сад, пляцоўка пад каток, побач з домам паставілі капліцу, а шум вадаспада на ставе новага млына ўплываў на элегічныя настроі. Дзякуючы знакамітым гасцям, музычным вечарынам і літаратурным бяседам, святочным балям з маскарадамі і феерверкамі Залессе атрымала сярод суседзяў назву «Паўночныя Афіны».

Уклаўшы вялізныя сродкі ў аднаўленне Залесся, Агінскі жыў тут хутчэй наездамі. Імператар Аляксандр прыцягвае яго да дыпламатычнай працы – Міхал Клеафас становіцца пасярэднікам у перамовах паміж Пецярбургам і Парыжам. У 1807 годзе ў Венецыі яго прымае Напалеон, праз два гады ён сустракаецца з французскім імператарам у Парыжы. Аляксандр у 1810 годзе шануе яго званнем сенатара, дае тытул тайнага радцы і ўзнагароджвае ордэнамі св. Уладзіміра і Аляксандра Неўскага. Агінскі адчувае сваю палітычную патрэбу. Абставіны зноў узносяць яго. Стасункі паміж Агінскім і царом такія, што ў 1811 годзе Агінскі падае Аляксандру праект стварэння з Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай, Валынскай губерняў і Беластоцкай вобласці асаблівую правінцыю з назвай Вялікае княства Літоўскае на чале з імператарскім намеснікам і цэнтрам у Вільні. План прадугледжваў стварэнне 100-тысячнага войска ВКЛ і скасаванне на працягу 10 год прыгоннага права. Ужо адно гэта пазбаўляла яго рэальнасці. А пасля ссылкі Напалеона на востраў св. Алены і Венскага кангрэса 1815 года, які вызначыў новыя еўрапейскія межы, цар страціў цікавасць да гэтага палітычнага твору былога інсургента. Сепаратныя памкненні Агінскага былі чужыя цару, запалянца імперскімі памкненнямі Аляксандра Агінскаму было не па сэрцу – адносіны Залесся з Пецярбургам загасаюць. Праўда, у 1816 годзе, калі Міхалу Клеафасу чарговы раз пагражала фінансавая яма, цар выратаваў яго, сплаціўшы яго даўгі.

Галоўным заняткам Агінскага ў Залессі была музыка. Агінскі пісаў шматлікія фартэпіянныя п'есы, маршы, мазуркі, рамансы, паланезы, вальсы, якія былі выдадзены ў 1816 годзе ў Вільні. Знакамітага паланеза ля мінор у гэтым выданні яшчэ не было.

### Апошнія гады

Упершыню яго нотны запіс быў апублікаваны ў 1831 годзе. Але на гэты час паланезінор ужо атрымаў еўрапейскую вядомасць, а ягоны аўтар дзевяць гадоў як жыў у Фларэнцыі. Ёсць тры падставы ад'езду Агінскага ў Італію. Дактары рэкамендавалі змяніць балоцісты беларускі клімат на сухі італьянскі для ляу чэння падагры. Другая, істотная, заключалася ў тым, што закінутае паміж Смаргонню і Маладзечнам Залессе паціху ператваралася з «Паўночных Афінаў» у правінцыйную сядзібу з рэдкімі гасцямі і нуднымі будзённымі клопатамі, і Агінскі пабойваўся ператварэння ў паджыкага банальнага сельскага пана. Не меншую, а можа галоўную, важнасць мела і адчужанасць паміж сужонцамі, іх адносіны канчаткова сябе зжылі. За дваццаць гадоў яны зведалі адзін аднаго да самых глыбіняў душы, размовы сталі нецікавыя, усе ўчынкі, адносіны і іх вынікі прадбачаныя, кожны жыў асобным жыццём у сваёй квадратнай вежы залескага палаца.

Пакінуўшы маёнтак жонцы і дзецям, абумовіўшы сабе сціплы пенсіён, Агінскі перад Калядамі 1822 года выехаў у Італію. У Фларэнцыі ягоны дом стаяў побач знакамітага палаца Строцы пабудовы 1500 года. У гэтым старым прыгожым будынку Агінскі напісаў «Лісты аб музыцы», чатыры тамы «Мемуараў», якія асвятлялі ягоны ўдзел у палітычных падзеях з 1788 па 1815 год. Яны былі выдадзены ў 1826 годзе ў Парыжы на французскай мове, і па сённяшні дзень тры тамы, апроч першага, не пракаментаваныя гісторыкамі. А паланез, пад якім Агінскі не паклапаціўся нават паставіць дату, ведаюць, слухаюць, выконваюць усюды. Склалася традыцыя датаваць гэты твор 1822 годам

Сканаў Міхал Клеафас Агінскі 15 кастрычніка 1833 года. Пахавалі яго на манастырскіх могілках касцёла Санта Марыя Навела. Пазней астанкі кампазітара былі перанесеныя ў сярэднявечны флярэнтыйскі храм-пантэон Санта Кроча. Там знаходзяцца грабніцы Мікеланджэла, Макіявелі, Галілея. Саркафаг Міхала Клеафаса з надпісам па латыні «Князь Казельскі-Агіньскі» змешчаны ў правым крыле сабора блізка да алтара.

Палову творчай спадчыны кампазітара складаюць паланезы. Некаторыя з іх выконваліся на балах, прыкладам, у Расіі ўсе балі адкрываліся папулярным творам Агінскага «Паланез фа мажор». Паланез – гэта танец-шэсце, яго фігуры незацейлівыя - два крокі, рэверанс. Галоўнае у шэсці - пачуццё годнасці, з якім пары паўстаюць перад светам. Агінскі здолеў узняць свае паланезы вышэй бальнага выкарыстання, яны набылі вартасці камерных твораў і таму не сталі забытыя, калі ва ўжытак увайшоў звычай пачынаць баль вальсам.

«Развітаннем з Радзімай» назваў у 1830-я гады знакаміты паланез нехта з эмігрантаў-удзельнікаў паўстання 1831-1832 гадоў. Сам Міхал Клеафас сваім паланезам канкрэтных назваў не даваў, калі не лічыць другога, напісанага ў 1792 годзе і названага ім «Развітанне». У далейшым гэта моцна заблытала даціроўку яго твораў. Ён выказваў у музыцы настрої, якія немагчыма акрэсліць абыходжавымі фразамі. «Паланез ля мінор» была назва філасофская, адлюстроўвала адну з асноваў быцця ўвогуле. Смутак прысутнічае ў сатварэнні свету, у слязах аб непадзеленым каханні, у горасці стратаў, у прыходзе восені, ва ўспамінах пра даўнія часы, даўніх сяброў, і ў разуменні, што ўсё непазбежна паўторыцца ў будучыні, і кожнаму наканавана зведаць і радасць, і боль, і пакуты.



Залесская сядзіба Агінскіх у чаканні рэстаўрацыі

# Жыць варта лепей

Кожны чалавек хоча жыць лепей. Для таго, каб дапамагчы людзям палепшыць сваё жыццё і быў распачаты семінар «Я магу жыць лепей». За два гады кантактаў са слухачамі семінара я зразумела, што беларусам хацелася б выпіць чароўную таблетку і тым самым змяніць жыццё да лепшага, але не працаваць над сабой, не мяняць светапогляд.

Калі нешта нам не ўдаецца ў хаце, то мы часцей бачым прычыну ў тым, што кепскія муж (жонка) або дзеці ці брат (сястра). Калі хварэем, то – дрэнныя медыцына, дактары і лекі. Калі праблемы на працы, то абвінавачваем начальніка. Малы заробак – значыць благая дзяржава. Гэты пералік можна доўжыць і доўжыць, і мала хто задумваецца, што чалавек тым самым паказвае на сваю залежнасць ад абставінаў. Ён упэўнены, што ад яго нічога не залежыць, ён ні на што не здатны, і ў яго няўдачах вінаватыя іншыя. Чалавек яшчэ не ўсвядоміў нават сваю незалежнасць, не навучыўся гаварыць: я магу, я зраблю, я здатны, я спраўлюся, гэта залежыць ад мяне.

Псіхолагі кажуць, што чалавек ёсць тое, што ён пра сябе думае. Наш сярэднестатыстычны чалавек ставіць сябе на ўзровень ніжэй сярэдняга, лічыць, што не адрозніваецца ні асаблівым розумам, ні прыгажосцю, ні багаццем, ні папулярнасцю, ні здароўем і г.д. І ў той жа час кожны хоча жыць вышэй сярэдняга, а то і па вышэйшай шкале. Але ў свеце існуе закон гармоніі, і як ні пніся стаць багатым, з думкай аб галечы ў свет багатыроў не пускаюць.



Калі ж прааналізаваць дачыненні беларусаў у фінансавай сферы, то там валадараць уяўленні, створаныя за савецкім часам. Па-першае, уражваюць адносіны нашых людзей да грошай. Абсалютная большасць людзей, як паказваюць вынікі тэставання, лічаць, што грошы – гэта зло. І ў той жа час шчыра пакутуюць ад адсутнасці гэтага «зла». Няўцям чалавеку, што сама прастора, дзе ён жыве, не дапускае да яго гэтае ліха, ахоўвае яго ад грошай.

Цікавымі з`яўляюцца вынікі апытання, колькі грошай знаходзіцца ў галаве нашага чалавека. Практычна ў кожнага ў галаве столькі, колькі і ў кішэні. Але да прапановы закласці ў галаву больш грошай людзі адносяцца вельмі насцярожана. Кожны жадае быць рэалістам. Хоць і з нулём у кішэні.

Я ўспамінаю свае апытанні на гэтую ж тэму англійскіх шасцікласнікаў. Іх сумы выгадна адрозніваюцца ад сумаў, якімі аперуюць нашы студэнты. На жаль, мы не прывучалі нашых дзяцей да думкі: тое, што мы бачым навокал, спачатку з`явілася ў нечай галаве.

Сёння наша краіна стогне ў чаканні добрага лідэра. Але скуль ён возьмецца? На жаль, тэставанне моладзі на гэтую тэму не дае падстаў для ўпэўненасці, што ў хуткім часе ў нас народзяцца айчынныя правадыры. Выхаваўча-адукацыйная сістэма з яе нівеліроўкай асобы на працягу доўгага часу добра папрацавала, адкідваючы асоб у стадыю залежнасці. Ды і сябе ведаць, – хто ты, які ты, – вельмі складана для нас.У групе з 20–25 чалавек знаходзіцца адзін, які па тэставанні змог сябе аб`ектыўна ацаніць. Звычайна, шкала заніжаная.

Нам не хапае ўпэўненасці ў сабе, у жыцці, у людзях, шырыні погляду. Практыкаванні, якія выпрацоўваюць шырыню і глыбіню погляду, выконваюць адзінкі ў групе. Таму і жывём мы па савецкіх законах: «в человеке должно быть все прекрасно...» А як толькі ў ім нешта не так, мы пачынаем яго перакройваць, змагацца з недахопамі, зліквідоўваць іх у людзях, у сабе, не даючы права гэтым недахопам быць. Але дзе вы бачылі жывога чалавека без недахопаў? Дасканалым можа быць толькі помнік.

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ,**
**выкладчык семінара**

# Гораснае лідэрства

***Наша краіна займае першае месца сярод краінаў СНД па колькасці жанчын, якіх вывозяць у Германію для сексуальнай эксплуатацыі***

Па даных супрацоўніка крымінальнага ведамства ФРГ У.Юргенсена, у 2001 годзе каля 1.000 жанчын з Беларусі былі вывезеныя ў Германію з мэтай прымусіць іх да занятку прастытуцыяй. «Рэальная колькасць вывезеных жанчын у некалькі разоў вышэй», – паведаміў Юргенсен. Найперш, гэта маладыя жанчыны з абласных і раённых цэнтраў краіны. Дзеля параўнання варта зазначыць, што за той жа час у ФРГ вывезлі з гэткай жа мэтай 128 жанчын з Украіны, 119 – з Літвы, 84 – з Польшчы, 73 – з Расіі, 40 – з Латвіі.

Бальшыня беларусак былі перапраўленыя праз мяжу легальна, але не ведалі сапраўдную мэту свайго падарожжа. Шмат дзяўчат выязджалі па турыстычнай візе, пасля чаго ў іх проста адымалі дакументы. Дзяўчаты таксама выпраўляліся ў Германію для працы ў начных клубах барменшамі, афіцыянткамі, пасудамыйкамі, танцаўшчыцамі. Некаторыя ў якасці гувернантак і нянек. Нямала жанчын паехалі ў Германію, каб выйсці замуж, як правіла, пасля знаёмства са сваімі будучымі «мужамі» праз Інтэрнет ці газетныя аб’явы.

Падставы, па якіх жанчыны імкнуліся ў ФРГ, на думку Юргенсена, – беспрацоўе, малы заробак, медыцынская незабяспечанасць, праблемы з законам. «Але жыццё гэтых жанчын сталася большым пеклам, чым тое, скуль яны намагаліся вырвацца», – адзначыў Юргенсен. Наогул з агульнай колькасці выпадкаў гандлю людзьмі – на гандаль жанчынамі прыпадае 99 працэнтаў. Пасля ідуць гвалтоўнае ўсынаўленне дзяцей, гандаль чалавечымі органамі і таннай рабочай сілай. Апошні пункт у гэтым спісе – гандаль спартсменамі.

Па ацэнках экспертаў, гандаль жывым таварам стаіць на трэцім месцы па маштабах атрымання прыбытку пасля гандлю зброяй і наркотыкамі.

Даўно ўжо час пазбавіцца ілюзіяў, што за мяжой нас чакаюць з ружамі. Чакаюць для эксплуатацыі. Асабліва – жанчын.

**Вера СТАШАНЮК**



# Развагі праграміста

**Віталь ХІЛЬКО,**

***удзельнік праекту Belarusian Language Linux Team***

Linux – гэта лепшы й апошні Unix.
*Аляксей Навадворскі*

«За апошнія дваццаць год сьвет зьмяніўся» – гэта словы Біла Гейтса, прамоўленыя ў 1995 годзе. Магчыма гэтак, але давайце зазірнем у крыху ранейшую гісторыю. У часы Джэймса Уатта. Ён вынайшаў паравую машыну, і тым вызваліў чалавецтва ад цяжкай ручной працы. Гэта быў сапраўдны прарыў у гісторыі цывілізацыі. Пачатак імклівага прагрэсу. Але падобнага прарыву магло й ня быць, калі б нейкі інвэстар Рэбук, які меў патэнтнае суаўтарства з Уаттам і правы на 2/3 прыбытку, нарэшце не прадаў свае правы менш скварнаму Бултану. Вельмі яскравы прыклад – супрацьстаяньне Вялікіх Грошай і Інтэлекту. Інь і Янь, якія кіруюць сьветам. Але калі Вялікія Грошы наперадзе, як у выпадку Рэбука, – гэта ступар і таптаньне на мейсцы, а калі вызваліць Інтэлект, як у выпадку Бултана, – гэта імклівы рух наперад.

Наш час, ці, калі жадаеце, найноўшая гісторыя. Чалавецтва вынайшла паўправаднікі, потым «разумныя» машыны – кампутары. Але ці адбылося з кампутарамі тое, што й з паравой машынай Уатта, ці сталася гэта наступным прарывам у гісторыі цывілізацыі? Здаецца, не... Грошы прагнуць рэваншу. Патэнты, забароны, прамысловы шпіянаж, DMCA акт (дадайце ў гэты сьпіс па свайму густу) – за ўсім стаяць Вялікія Грошы. Вялікія Грошы аб’ядноўваюцца й ствараюць карпарацыі, магутныя карпарацыі, сэнс якіх рабіць яшчэ большыя Грошы. Адной з падобных карпарацыяў зьяўляецца Microsoft, якая кіруецца мультыміліярдэрам, найбагацейшым чалавекам у сьвеце, тым самым Білам Гейтсам. Майкрасофт – агромністы штучны манапаліст. Ёсьць яшчэ іншыя, драбнейшыя і менш удалыя гульцы, якія спаборнічаюць за права быць першымі (багацейшымі), але яны таксама манапалісты. Яны падпарадкоўваюць Інтэлект, ператвараючы яго ў Вялікія Грошы. Але, як той казаў, «Нават калі вас зьелі, ёсьць два выйсьці». Як вядома, сыстэма дасягае аптымальнасьці ў тым выпадку, калі кожны ейны элемэнт знаходзіцца ў стане аптымальна карысным ня толькі для сябе, але й для іншых элемэнтаў гэтае сыстэмы. У нашым выпадку разумны баланс між Грашыма й Інтэлектам. Падобнае выйсьце дае рух Open Source. Ідэя вельмі простая – інфармацыя павінна быць даступнай кожнаму, гэта багацьце ўсяе цывілізацыі. Толькі з пункту гледжаньня Інтэлекту – багацьце гэта поўная свабода ў стварэньні матэрыяльных і духоўных каштоўнасьцяў, з пункту гледжаньня Грошай – спажываньне й кіраваньне створанымі Інтэлектам каштоўнасьцямі. Але ў Open Source ёсьць істотная абарона ў выглядзе ліцэнзіі GNU General Public License (GPL). Асноўная ўмова, якую ўсталёў-



вае GNU, менавіта ў тым, каб праграмнае забесьпячэньне было даступнае любому, каб кожнаму была прадастаўлена мажлівасьць перарабіць яго на свае патрэбы. Адзіная ўмова – прадастаўленьне пераробленага зыходнага тэксту: усе астатнія маюць права на далейшыя зьмены. GPL дае мажлівасьць стваральнікам праграмаў захоўваць за сабой аўтарскае права (у выпадку Грошай гэтае права мае карпарацыя), але дазваляе іншым набываць, мадыфікаваць і прадаваць новую праграму. Аднак, скарыстаўшыся гэтым правам, праграміст ня можа не перадаць такія сама правы людзям, што набылі ягоную праграму. Прадаючы праграму альбо мадыфікуючы яе, праграміст мусіць перадаць і ейны зыходны код. Але Open Source – гэта ня толькі доступ да зыходнага коду й ня толькі GPL. У апошнія некалькі год Open Source перакінуўся й у іншыя галіны – музыку, радыё, ПЗ пад іншымі GNU-падобнымі ліцэнзіямі (LGPL, BSD X Consorcium, Arctic, MPL, QPL, libpng, zlib, Mozilla Public License). Галоўнае – інфармацыя, якую яны прадастаўляюць, павінна адпавядаць дамоўленасьцям Open Source.

**Дамоўленасьць Open Source**

(поўны тэкст гэтае дамоўленасьці знаходзіцца на http://www.opensource.org/osd.html)

Умовы распаўсюджаньня праграм Open Source павінны адпавядаць шэрагу патрабаваньняў:

1. ***Свабоднае распаўсюджаньне.***

Ліцэнзійная дамоўленасьць ня можа забараняць аніводнаму з бакоў прадаваць ці перадаваць праграмнае забесьпячэньне як частку вялікага пакету, які ўтрымлівае праграмы зь некалькіх розных крыніц. Ліцэнзійная дамоўленасьць ня можа абавязваць выконваць ліцэнзійную ці іншую аплату пры гэтым продажы.

2. ***Зыходны код.***

Праграма павінна пастаўляцца з зыходным кодам. Дазваляецца распаўсюджаньне як самой праграмы, гэтак і ейнага зыходнага коду. Калі зь якой-небудзь праграмай зыходны код не пастаўляецца, неабходна ўказаць, як яго можна атрымаць па разумным кошце; пажадана, каб гэты код можна было бясплатна загрузіць з Internet. Зыходны код павінен быць прадастаўлены ў даступнай форме, дазваляючы праграмісту мадыфікаваць гэтую праграму. Наўмысна заблытаны зыходны код не дазваляецца. Прамежкавыя формы, гэткія, як вывад перадпрацэсара ці трансьлятара, ня дапускаюцца.

3. ***Вытворныя праграмы.***

Ліцэнзійная дамоўленасьць павінна дазваляць мадыфікаваньне й выкарыстаньне зыходнага тэксту ў іншых праграмах, а таксама распаўсюджаньне вытворнай праграмы на тых жа ўмовах, што й зыходнай.

4.***Цэласнасьць аўтарскага зыходнага коду.***

Ліцэнзія можа забараняць распаўсюджаньне мадыфікаванага коду толькі ў тым выпадку, калі дазваляецца распаўсюджаньне дапаўненьняў і «заплат» з зыходным кодам для мадыфікаваньня праграмы падчас яе пабудовы. Ліцэнзія павінна адкрыта дазваляць распаўсюджаньне праграмнага забесьпячэньня, пабудаванага на аснове мадыфікаванага коду. Ліцэнзія можа патрабаваць, каб вытворныя праграмы мелі назву й нумар вэрсіі, якія адрозьніваюцца ад зыходнага праграмнага забесьпячэньня.

5. ***Забарона дыскрымінацыі асоб ці групаў асоб.***

Ліцэнзія не павінна ставіць у горшыя ўмовы асобу ці групу асобаў.

6. ***Адсутнасьць абмежаваньняў на вобласьць ужываньня праграмаў.***

Ліцэнзійнай дамоўленасьцю не павінна абмяжоўвацца вобласьць ужываньня праграмы. Напрыклад, нельга забараніць выкарыстоўваць праграму ў камэрцыйных мэтах ці генэтычных дасьледаваньнях.

7. ***Распаўсюджаньне ліцэнзійнае дамоўленасьці.***

Замацаваныя за праграмай правы датычацца ўсіх яе карыстальнікаў. Дадатко-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Гурт «UR'IA»:

## Беларускія мелодыі сярод «Музыкі народаў свету»



Мы прызвычаіліся да таго, што гісторыя беларускага рок-н-ролу ствараецца тут, на Беларусі. Мы ідзём на канцэрты нашых улюбёных выканаўцаў, набываем іх новыя кружэлкі, даведваемся пра сваіх куміраў з мясцовай прэсы, чытаем ці слухаем іхныя інтэрв`...

Але шмат з таго, што вартае ўвагі нашых слухачоў, застаецца за кадрам, бо многія беларускія выканаўцы і рок-гурты шукаюць прызнання на Захадзе. Да гэтага іх штурхае сумны стан беларускага шоу-бізнесу і адносіны да беларускіх выканаўцаў з боку мясцовых СМІ. Адным з такіх рок-калектываў, што знаходзіць прызнанне больш за мяжой, чымсьці на радзіме, з'яўляецца фолк-рок-гурт «UR'IA». Застаючыся адданымі патрыётамі Беларусі, музыкі шмат гастралююць па Еўропе, знаёмяць тамтэйшых слухачоў са старажытным беларускім фальклорам, а іх дыск «Весначуха» вядомы ў многіх краінах свету, і на думку слухачоў і спецыялістаў, музыка з яго нясе сучасны адбітак тых даўнейшых музычных пластоў, што ўжо страчаны ў Еўропе. Да таго ж, гурт «UR'IA» – адзін з самых жаданых удзельнікаў шматлікіх фэстаў этнічнай музыкі. Гэта адбываецца таму, што гурт цесна супрацоўнічае з вядомай прадзюсерскай фірмай «Этнасфера», якая апякуецца беларускім гуртом.

Вось і не так даўно гурт «UR'IA» быў запрошаны на яшчэ адзін вельмі прадстаўнічы музычны форум, арганізаваны пад патранатам «Этнасферы» – на фэст «Музыка народаў свету» ў Варшаву. Але пра гэтую падзею больш падрабязней мы папрасілі распавесці кіраўніка гурта Юрыя Выдронка, які стаў госцем рэдакцыі «Новага Часу».

– Так, мы толькі што вярнуліся з фестывалю, які называўся «Музыка народаў свету» і праходзіў у варшаўскім Каралеўскім замку Уяздоўскім. Яго арганізатарам і творчым рухавіком стаў вядомы ў сусветных этнамузычных колах выканаўца Міла Курдзіс. Мэтай гэтай творчай сустрэчы стала жаданне аб'яднаць музыкаў з усяго свету для стварэння новай музыкі, для пошукаў новых музычных ідэй на аснове этнічных традыцый.

Першы фестывальны дзень распачалі гаспадары-польскія музыкі з гурта «Kapela ze wsi Warshawa», якія з часам саступілі сцэну англічанам з «Fun-da-mental» ды расіянцы І.Жэланнай і яе гурту «Forlanders», а таксама іншым музыкам з многіх малых і вялікіх краін. На адкрыцці фэсту «Музыка народаў свету» быў арганізаваны так званы сэйшн – супольнае музыцыраванне выканаўцаў з розных куткоў планеты. На завяршэнне першага фестывальнага дня быў запланаваны наш канцэрт. Гурт «UR'IA» запрасілі на фэст як зорак, і таму мы адыгралі вельмі натхнёна. Гэта ацанілі варшаўскія слухачы, якія выклікалі наш гурт на «біс» аж чатыры разы. Ад такой увагі мы нават стаміліся, але гэтая стомленасць была вельмі прыемнай!

На гэтым канцэрце, дзе мы прадстаўлялі беларускі старажытны фальклор у сучаснай аранжыроўцы, мы выканалі свае новыя кампазіцыі паводле беларускага фальклору — «Калядную», «Конік», «Фолк-н-рол», «У лузе», «Мамачка», таксама ўжо знаёмыя беларускім слухачам па альбому «Весначуха» песні «Агу, вясна», «Зелены дубочак», «Суботачка».

Трэба сказаць, што пасля нашага сольнага канцэрта фестывальныя «прыгоды» не скончыліся: мы сталі ўдзельнікамі «хатняга» сэйшана, які зладзіў для музыкаў Міла Курдзіс. Наш гітарыст Юра Задзіран граў на сітары, я – на жалейцы, іншыя ж музыкі таксама гралі на народных інструментах сваіх краін. Мы ад душы імправізавалі ды пілі віскі...

Праз два дні нас зноў чакаў сольны канцэрт у вроцлаўскім клубе, у памяшканні якога граў сам Шапэн – «Пconfiguration"Півніца Свідніцка», вядомая з 1273 года. Там нас прымалі таксама вельмі прыязна ды здымалі наш канцэрт на відэастужку. Урыўкі з гэтых запісаў спатрэбяцца для фільма, які ствараюць польскія кінадакументалісты для канала «Discovery» (Беларускія рэжысёры! Дзе вы?). Спадзяёмся, што ў хуткім часе здымкі фільма будуць завершаны, і з ім змогуць пазнаёміцца аматары этнічнай музыкі ў розных краінах свету.

***– Юры, у адным з інтэрв'ю ты распавядаў пра планы гурта «UR'IA» як мага хутчэй выдаць свой новы альбом ды перавыдаць новым накладам вельмі папулярны ў Беларусі ваш кампакт-дыск «Весначуха». Як рухаюцца справы ў гэтым кірунку?***

– На жаль, з запісам новага альбома выходзіць невялікая затрымка. Але пасля вяртання з фэсту «Музыка народаў свету» мы плануем сур'ёзна працягнуць працу над ім. А пакуль шукаем прыдатнае для запісу памяшканне альбо драўляную хату, каб аднавіць акустычную атмасферу, характэрную для беларускага фальклору.



Што ж тычыцца «Весначухі», то мы толькі што атрымалі факс, дзе паведамляецца, што гэты альбом будзе перавыдавацца ў Злучаных Штатах Амерыкі, Канадзе, Аўстраліі, Германіі, Англіі і ў іншых еўрапейскіх краінах. Чакаецца нават яшчэ адно перавыданне «Вэсначухі» ў Беларусі. У гэтых перавыданнях захаваецца праграма і дызайн, пабудаваны на эстэтыцы і палотнах выдатнага беларускага мастака Язэпа Драздовіча, але будуць унесены змены ў тэксты анатацый ды мультымедыйнае начынне дыска. Будуць зроблены пераклады народных песень на англійскую ды іншыя мовы, у залежнасці ад таго, дзе кружэлку плануецца распаўсюджваць. Думаю, што для гэтага фірме-выдаўцу будзе перададзена ліцэнзія на выпуск дыска. А асноўны яе варыянт выдасць ужо фірма «Арыяварта-Рэкардс», якую мы зарэгістравалі ў Польшчы сумесна з прадзюсерскай фірмай «Этнасфера».

**Гутарыў Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# пра беларускі IT-рэсурс

вай ліцэнзійнай дамоўленасьці ня трэба.

8. ***Ліцэнзійная дамоўленасьць не павінна залежаць ад праграмнага прадукту.***

Замацаваныя за праграмай правы не павінны залежаць ад таго, часткай якога дыстрыб'ютыву гэтая праграма зьяўляецца. Калі праграма ўзята з пэўнага дыстрыб'ютыву й выкарыстоўваецца ці распаўсюджваецца ў межах сваёй ліцэнзійнай дамоўленасьці, усе яе карыстальнікі маюць аднолькавыя правы, якія прадастаўлены першапачатковым дыстрыб'ютывам.

9. ***Ліцэнзійная дамоўленасьць ня мусіць накладваць абмежаваньні на іншыя праграмы.***

Ліцэнзія не павінна абмяжоўваць іншае праграмнае забесьпячэньне, якое распаўсюджваецца разам з праграмай. Напрыклад, ліцэнзійная дамоўленасьць ня мусіць патрабаваць, каб іншае праграмнае забесьпячэньне, якое распаўсюджваецца на адным носьбіце з гэтай праграмай, таксама было Open Source.

10. ***Узгадненьне ліцэнзійных дамоўленасьцяў і сэртыфікацыя.***

Любое праграмнае забесьпячэньне з ліцэнзійнай дамоўленасьцю, сэртыфікаванай як сумяшчальнае з Open Source, можа выкарыстоўваць гандлёвую марку Open Source. Зыходныя коды гэткіх праграмаў можна прадастаўляць для агульнага карыстаньня. Іншыя ліцэнзійныя дамоўленасьці і праграмы гандлёвую марку Open Source выкарыстоўваць ня могуць.

...і ўсё гэта працуе. 1991 год. Фінскі студэнт Лінус Торвальдс піша першыя радкі новае сыстэмы. Яна яшчэ нестабільная, працуе з памылкамі, але працуе. Лінус аддае яе на ўмовах GPL заахвочанай інтэрнэт-садружнасьці. Сыстэма атрымала імя Linux, і за 10 год стала асноўным канкурэнтам карпарацыям, захопліваючы спачатку сэрвэры, а потым і працоўныя станцыі. Інтэлект пачаў перамагаць грошы. Нехта не пагодзіцца , але галава MicroSoft Стыў Балмер назаве гэта «галоўнай праблемай у наступным годзе». Але й некаторыя карпарацыі падхапілі ідэі Open Source, перавёўшы свой бізнэс са сфэры продажу ліцэнзіяў, і адпаведна атрыманьня звышпрыбыткаў, у сфэру прадастаўленьня сэрвісаў. Каб зразумець, як гэта адбываецца, разгледзім просты прыклад (вельмі спрошчаны прыклад): існуе распрацоўшчык і існуе замоўца, якому патрэбен пэўны праграмны прадукт. Атрымаўшы патрэбную функцыянальнасьць створанага прадукту, замоўца перадае грашовае ўзнагароджаньне распрацоўшчыку. Такім чынам, праца распрацоўшчыку аплочаная, ён атрымаў прыбытак. Магчыма, іншаму замоўцу на іншым баку сьвету патрэбен падобны прадукт, але з новай магчымасьцю. Каб пашырыць магчымасьці праграмы, замоўца можа зьвярнуцца да таго самага распрацоўшчыка альбо да любога іншага, здольнага ўнесьці патрэбныя зьмены. Такім чынам, замоўца (карыстальнік) пазбаўлены залежнасьці да пэўнага распрацоўшчыка, а рынак пазбаўляецца манаполіі распрацоўшчыка. Выжывае той, хто здольны прадаставіць лепшы сэрвіс створанага прадукту. Прадукт жа атрымлівае «ўласнае жыцьцё». Добры прыклад: фірма Easel стварае файлавы мэнаджар Nautilus. Праз пэўны час фірма сталася банкрутам, а Nautilus працягвае разьвівацца.

Зірнем на Беларусь і яе разьвіцьцё ў галіне йнфармацыйных тэхналёгіяў. Майкрасофт тут манапаліст. Усюды – у навуковай сферы, у адукацыі, эканоміцы. І гэта, нягледзячы на тое, што 99 адсоткаў праграмнага забесьпячэньня на кампутарах – піраціся копіі, і карыстальнікі анічога ня плацяць за выкарыстаньне гэтага ПЗ. Пакуль ня плацяць... Далейшая інтэграцыя з Эўропай вымушае ўсё ж выконваць пагадненьні ў галіне аўтарскага права. І плаціць прыйдзецца, і даволі шмат.

Што робіць Майкрасофт на Беларусі? Яна стварае новыя працоўныя месцы? Не. Яна сплачвае падаткі й узбагачае бюджэт краіны? Не. Яна спрыяе ўзмацненьню навуковага патэнцыялу Беларусі? Не. Яна прадае ліцэнзіі на свае прадукты, на права імі карыстацца, ня больш. Пытаньне: дык якую ж карысьць ад прысутнасьці Майкрасофт на Беларусі мы маем? А маем адток высокакваліфікаванага IT-пэрсаналу зь Беларусі ў іншыя краіны, дзе яны ствараюць тыя ж офісы й акенцы, але атрымліваюць крыху большыя грошы. Маем адток грошай. Магчыма пакуль ня надта вялікі, але ён можа стаць вялікім.

Падлічым, колькі ж будзе каштаваць ПЗ для звычайнай офіснай машыны ў самым мінімальным варыянце як OEM-прадукту: Windows 200 Proffesional Russian OEM (Заўважым беларускай вэрсіі як не існавала, гэтак і ня будзе існаваць.) – $142, MS Office 2000 Proffesional Rus (аналягічна) – $292. Разам – $434. Фактычна кошт новага кампутару. І гэта без уліку бухгалтарскага ПЗ, сэрвэрнай часткі й аплаты пэрсаналу за ўсталяваньне й абслугоўваньне. Заўважу: усе гэтыя грошы мусяць пакінуць межы Беларусі й палепшыць матэрыяльнае становішча розных Білаў і эканоміку дзядзькі Сэма. І кожны выпускнік любой ВНУ марыць зьехаць усьлед за імі. Відавочна, Вялікія Грошы білаў ды сэмаў пануюць над сьветам, спыняючы разьвіцьцё й прагрэс адных краінаў і узбагачаючы іншыя, тыя, дзе жывуць Вялікія Грошы. Якое ж ёсьць выйсьце.




А выйсьце бачыцца ў выкарыстаньні Open Source-прадуктаў і ў спрыяньні распрацоўцы гэтых прадуктаў уласным IT-пэрсаналам. Як тое робяць у Фінляндыі, Паўднёвай Карэі, Кітаі, Нямеччыне, прызнаўшы неабходнасьць выкарыстаньня Open Source ў дзяржаўным сэктары. Ці як Вэнэсуэла, прыняўшы закон, па якім усё ПЗ мусіць быць пад ліцэнзіяй GPL. Ці як Украіна, парлямант якой абмяркоўвае законапраект аб выкарыстаньні дзяржструктурамі Open Source ПЗ. Ці як Расея, што распрацоўвае сваю, незалежную ад дробна-мяккіх, «Электронную Россию». Які шлях абярэ Беларусь, залежыць ад нас. Але дакладна, толькі Open Source – мадэль разьвіцьця можа абараніць нашыя нацыянальныя інтарэсы й рух наперад у разьвіцьці інфармацыйных тэхналёгіяў ня толькі нашай краіны, але й сьвету цалкам.

Стварайма сапраўднае адкрытае грамадства, заснаванае не на міфічным братэрстве ці чыіхсьці палітычных альбо рэлігійных інтарэсах, а на будове сапраўднага супрацоўніцтва Чалавека з Чалавекам і для Чалавека.

# Рыцары «левага» заробку

**Злодзеі кланіруюць аўдыёкампакты, праграмы, фільмы, усё што карыстаецца попытам на «чорным» рынку і дае 9 мільярдаў нелегальнага прыбытку**

Сфальсіфікаваныя кнігі, кампакт-дыскі, камп'ютэрныя праграмы, якія прадаюцца побач з афіцыйнымі прадуктамі, паглынаюць грошы легальнага рынку. Прыкладам, у Італіі ў 2001 годзе абарот пірацкага рынку перабольшыў 542 мільёны еўра, а ва ўсім свеце ён склаў 9 мільярдаў еўра. Размова ідзе аб сродках, якія трапляюць злачынным арганізацыям.

Гэтыя дадзеныя ўтрымліваюцца ў справаздачах Агенцтва ААН па развіцці гандлю. У Італіі карабінеры і фінансавая гвардыя намагаюцца змагацца з гэтай з'явай. Некалькі дзён назад была праведзена аперацыя Master buster («Паляванне на піратаў»). Абвінавачванні выстаўлены 137 асобам, было канфіскавана 77.832 кампакт-дыскі, 5.328 Dcd, 6.200 відэакасетаў, 8.400 музычных установак. Гэтакія вынікі аперацыі выклікалі моцную занепакоенасць памерамі пірацкай дзейнасці. У італьянскім кіно доля пірацкай прадукцыі склала 140 мільёнаў еўра, у сферы праграмнага забеспячэння – 338 мільёнаў еўра (гэта 45 % рынку), у сферы камп'ютэрных гульняў пірацкая прадукцыя мае аб'ём 74 %. Найменш піратаў цікавяць кнігі, тут фальсіфікаты прыносяць дзялкам толькі 23 мільёны еўра. Па дадзеных ААН, у Кітаі абарот пірацкай прадукцыі склаў 1 мільярд 932 мільёны еўра. За Кітаем услед ідзе Расія – 847 мільёнаў, потым Мексіка – 806 мільёнаў, 4-е месца належыць Бразіліі – 708 мільёнаў. У прыстойнай Паўднёвай Карэі піраты забіраюць сабе 562 мільёны еўра.

Варта пазначыць, што ў розных краінах аддаецца перавага розным відам пірацкай прадукцыі. Напрыклад, у Індыі – гэта фільмы (60 %), у Расіі – музыка (64 % рынку на суму 285 мільёнаў еўра), у Кітаі – камп'ютэрныя праграмы (92% рынку).

**La Republica**

# Пенсія: дзе даюць болей?

**Сярэдні беларускі пенсіянер атрымлівае 50 у. а. З кім яму варта параўноўвацца, каб не чуцца кепска**

### Памер пенсіі

Паводле справаздачы еўрапейскага статыстычнага інстытута Eurastat, з усіх краінаў Еўрапейскага Саюза менш за ўсіх выдаткоўвае на выплату пенсіяў Ірландыя, больш за ўсіх – Італія.

Самыя высокія пенсіі (за вылікам падаткаў) у Даніі і Японіі – па 833 $ На другім месцы ў свеце – Швецыя (там пенсіянеры атрымліваюць па 800 $). У Францыі і ЗША пенсіянеры жывуць на 667 $ на месяц. 633 $ складае пенсія грамадзяніна Вялікабрытаніі- Чылійскі пенсіянер атрымлівае ў месяц 120 $, кітайскі – 80$.

Але ва ўсіх выпадках гаворка ідзе пра мінімальныя пенсіі.

### Асаблівасці пенсійнага страхавання

**ЗША.** Сёння каля 90% пенсіянераў у Амерыцы атрымоўваюць дзяржаўную пенсію. У ЗША два спосабы выхаду на пенсію: першы – па дасягненні пенсійнага ўзросту (65 гадоў незалежна ад полу); другі – можна пайсці на пенію на тры гады раней, але гэтыя тры гады атрымоўваць на 20% меней, чым атрымоўваюць, пайшоўшы на пенсію ў 65 гадоў.

Велічыня амерыканскай пенсіі залежыць ад агульнага працоўнага стажу, і ад беспрацоўнасці і памеру заробку. Звычайна пенсія амерыканцаў складае 50–80% ад заробкаў, на сёння сярэдняя пенсія складае каля 700 $. Калі чалавек нідзе не працаваў, пры дасягненні пенсійнага ўзросту ён атрымоўвае дзяржаўную дапамогу ў памеры 280$.

**Францыя**. У Францыі няма агульнапрынятага пенсійнага ўзросту. На пенсію французы выходзяць, у асноўным, у 60 гадоў, незалежна ад таго мужчына гэта альбо жанчына. Аднак ёсць асобныя катэгорыі, для якіх пенсійны ўзрост значна ніжэйшы, напрыклад, шахцёры выходзяць на пенсію ў 50–55 гадоў.

Французская пенсійная сістэма грунтуецца на двух прынцыпах. Першы – пенсійнае накапляльнае страхаванне. Пенсія ў такім выпадку выплочваецца са сродкаў, якія адкладаў працаўнік. Другі, так званы «прынцып салідарнасці» – калі пенсіі выплочваюцца са сродкаў, якія адлічваюцца працуючымі на гэты момант.

Пенсія ў Францыі складае 50% ад сярэдняга заробку за апошнія працоўныя 11 гадоў. Існуе таксама такое паняцце, як максімальная і мінімальная дзяржаўныя пенсіі. На сёння мінімальная пенсія – каля 6.000 еўра ў год, максімальная – у два разы болей.

**Германія.** Нямецкі прынцып пенсійнага страхавання, так званая «дамова пакаленняў», заключаецца ў тым, што тыя грошы, якія пераводзяцца ў пенсійны фонд сёння, забяспечваюць бязбедную старасць сённяшнім пенсіянерам.

Але нямецкае грамадства няўхільна старэе і пенсійныя падаткі ўзрастаюць. На сённяшні дзень гэты паказчык роўны 20,3%. Але з гэтых 20,3% сам працоўны выплочвае толькі палову. Астатнюю палову за яго плоціць працадаўца. Гэтак цягнецца да 65-гадовага ўзросту, калі немцы сыходзяць на пенсію. Але ў нямецкай пенсійнай сістэме ёсць і адно абмежаванне: пенсійныя падаткі працоўны плоціць з заробкаў, якія не перавышаюць 6.000 еўра. Калі гэта сума болей, дык падаткі ўсё роўна трэба плаціць з 6.000 еўра. Астатнюю суму звычайна змяшчаюць у фонды неабавязковага страхавання.

Памер нямецкай пенсіі залежыць ад працоўнага стажу і заробку. Гэта сума павінна даходзіць да 70% ад заработнай платы, але гэта магчыма толькі пры наяўнасці мінімум 12 гадоў стажу. У адваротным выпадку пенсія складае ўсяго каля 350 еўра ці 300 долараў. А калі няма і трох гадоў стажу, пенсію не плоцяць увогуле.

**Вялікабрытанія.** У Вялікабрытаніі пенсійная сістэма мала чым адрозніваецца ад «мацерыковай». Пенсійны ўзрост у Вялікабрытаніі складае 65 гадоў для мужчын і 60 для жанчын.

Падаткі ў пенсійны фонд з боку працаўніка 10%, але толькі з заробку, які не перавышае 23.660 фунтаў (33.300 даляраў) ЗША на год.

Злучанае каралеўства гарантуе сваім грамадзянам мінімальную пенсію і не вымагае ад іх уносіць каласальныя сумы ў пенсійны фонд. Гэта справа асабістая.

Працадаўца таксама плоціць падатак у пенсійны фонд. Але гэтыя сумы ўжо адрозніваюцца ў дыяпазоне ад 3 да 10,2% ад заробку. У брытанскай пенсійнай сістэме ўлічваецца такая агромністая колькасць фактараў, што не ўскі работнік сацыяльнай сферы здольны слушна вылічыць пенсію.

**Ізраіль.** Гэтая краіна славутая сваёй «напаўсацыялістычнай» сістэмай сацыяльнага страхавання. Пенсійны фонд тут замяняе фонд абавязковага сацыяльнага страхавання, адкуль выплочваецца не толькі пенсіі, але і дапамога па беспрацоўі ці старасці. Такая дапамога выплочваецца ўсім асобам, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту (65 гадоў для мужчын і 60 для жанчын) і складаюць ад 16 да 24% ад сярэдняга заробку ў залежнасці ад сямейнага становішча. Але такія сумы не могуць пакрыць усе выдаткі на пражыванне. Таму шмат хто адлічвае 5,5% сваіх даходаў у фонды сацстраху. Працадаўца таксама плоціць 12% ад заробку за свайго наёмнага працаўніка.

**Аўстрыя.** Пенсійнае страхаванне тут абавязковае. Наёмны працаўнік адлічвае на пенсію 10,25% свайго заробку, а працадаўца – 12,5% ад заробку працаўніка без уліку падаткаў. Мінімальная пенсія для несямейных складае 1.100 еўра, для сямейных – 1.565 еўра плюс 120 еўра на кожнае дзіця ў сям'і. Пенсійны ўзрост – 65 гадоў.

**Нідэрланды.** Усе грамадзяне краіны маюць дзяржаўныя пенсіі. Пры гэтым 14,5% ад заробку ў кошт будучай пенсіі плаціць сам працаўнік. Прадугледжаныя розныя памеры пенсіяў: для несямейных асобаў альбо з партнёрам, малаодзейшым за 65 гадоў – каля 630$ у месяц; для сямейных параў пасля 65 гадоў – прыкладна, 850$ у месяц.

**К.–К.**

# Небяспека міграцыі

За час з 1800 па 1950 год насельніцтва Еўропы павялічылася з 203 да 547 мільёнаў, і адпаведна тут адбыліся экстраардынарныя палітычныя і эканамічныя змены. За гэтыя паўтара стагоддзі еўрапейцы ў сувязі з беспрацоўем масамі эмігравалі ў Лацінскую Амерыку, дзе павялічылі насельніцтва на 50 мільёнаў, у Паўночную Амерыку, насельніцтва якой з гэтай прычыны пабольшала на 75 мільёнаў, а насельніцтва Акіяніі за кошт еўрапейцаў узрасло на 11 мільёнаў.

Сённяшнія эканамічныя змены ў краінах Трэцяга Свету таксама садзейнічаюць ураджліваму росту насельніцтва. Згодна з прагнозамі, за перыяд з 1950 па 2050 год насельніцтва Афрыкі павінна імкліва павялічыцца на 800 працэнтаў, з 221 мільёна да 1,8 мільярда, насельніцтва Азіі – на 375 працэнтаў, з 1,4 да 5,3 мільярда, а ў Лацінскай Амерыцы – на 484 працэнты, з 167 да 809 мільёнаў.

Да 2010 года на рынкі працы ў краінах Трэцяга Свету выйдуць 700 мільёнаў маладых людзей, гэта болей, чым уся рабочая сіла сучаснага індустрыяльнага свету.

Перашкоды на ўезд у развітыя краіны, асабліва ў краіны Еўропы, выклічуць нябачаны раней рост нелегальнай міграцыі разам з адпаведнымі гэтаму працэсу злачыннасцю, карупцыяй і пакутамі. Тэндэнцыі, якія назіраюцца сёння, падказваюць на пашырэнне нестабільнасці і нават магчымасць войнаў.

Паколькі Беларусь ляжыць на самых зручных шляхах міграцыі, дык нас наперадзе чакаюць немалыя праблемы.

**Віктар ТУКМАНОВІЧ**

# Супраць прэвентыўнай вайны

«Прэвентыўная вайна – вайна захопніцкая, у гэтым няма сумніву. Яна не можа падпадаць пад акрэсленне справядлівай вайны падобна вайне па абароне сваёй краіны» – заявіў архіепіскап Рэната Марціна, старшыня арганізацыі «Справядлівасць і мір», які прадстаўляў пасланне Папы на «Дзень Міру 2003 года»

Пачынаючы з верасня розныя прадстаўнікі каталіцкай царквы, у тым ліку кардыналы Руіні і Садана, выступаюць з заявамі супраць «прэвентыўнай вайны», развязаць якую пагражае прэзідэнт Буш. Але словы, якія вымавіў архіепіскап Марціна, які да лістапада займаў пасаду пастаяннага прадстаўніка Ватыкана пры ААН, можна назваць самымі яснымі і рэзкімі.

«Кожная дзяржава мае правы абараняцца ад нападу, – удакладніў архіепіскап, – але гэта павінен быць рэальны напад, а не верагоднасць агрэсіі». І яшчэ ён сказаў: «Напачатку павінна быць агрэсія, а потым абарончы ўдар у адказ, а не наадварот».

Адказваючы на пытанне, ці лічыць ён працу інспектараў ААН у Іраку эфектыўнай, Марціна адказаў: " Я веру ў ААН, я працаваў у гэтай арганізацыі 16 гадоў і спадзяюся на тое, што інспектары скажуць вырашальнае слова і будзе можна пазбегнуць вайны». Пасля 11 верасня 2001 года, сказаў архіепіскап, «стабільнасці і бяспецы свету самым непрадказальным чынам пагражае ракавая пухліна міжнароднага тэрарызму. Аднак барацьба з тэрарызмам і гвалтам «ніколі не павінна нараджаць іншы гвалт».

**Corriere della Sera**

# Нью-Ёрк не дасць жыцця курцам

Для многіх жыхароў Нью-Ёрка, якія маюць шкодную звычку курыць, непрыемнай навіной напярэдадні Калядаў стала дамоўленасць мэра горада Майкла Блумберга і Гарадской Рады адносна закона, які скарачае прастору для курцоў.

Забарона паліць будзе распаўсюджаная амаль на ўсе рэстараны і бары, а таксама рабочыя офісы, холы плавальных басейнаў, спартыўныя залі. Новыя правілы закрануць 13 тысяч розных установаў.

«Вынікам прыняцця гэтага законапраекта стане выратаванне каля тысячы чалавек, якія штогод гінуць ад пасіўнага палення», – заявіў Блумберг. Большыня штатаў і шмат муніцыпалітэтаў таксама ўвялі пэўныя абмежаванні на паленне ў публічных месцах, але нью-ёркская забарона стане адной з самых радыкальных у краіне. Праўда, пад ціскам незадаволеных курыльшчыкаў і гаспадароў бараў Блумберг пагадзіўся на дробныя паслабленні. Курыць будзе дазволена ў пэўных частках кавярняў, якія знаходзяцца на адкрытым паветры, у барах, якія маюць спецыяльныя пакоі з добрай вентыляцыяй, у прыватных клубах, у сігарных барах, у дамах для састарэлых.

Мноства прыхільнікаў разлютаваныя на Блумберга. «Не лічачы Напалеона, не было яшчэ на свеце чалавека болей бязлітаснага», – заявіў трыццаціграговы амерыканец Патрык Сміт, і з ягонымі словамі згодныя сотні тысяч аматараў тытуню.

**Ала ВЕРАБЕЙ**

# Калючы сімвал Калядаў

***Кожны з нас з дзяцінства асацыюе Новы Год і Каляды з ёлкай, а ёлку ўзімку менавіта з гэтымі святамі. Упрыгожванне елкі – гэта абавязковы перадсвяточны рытуал. Магчыма, з яго і пачынаецца свята, а сканчаецца з выкіданнем гэтага засохлага дрэўца з іголкамі ў смецце. Таму, каб свята цягнулася як мага даўжэй, варта паклапаціцца аб навагодняй прыгажуні.***

Ёлка, як усё жывое, мае прагу да вады. Каб як мага больш працягнуць ейнае жыццё ў кватэрных умовах, паспрабуйце адмовіцца ад усялякіх вяртушак і крыжавінаў і проста пастаўце ёлку ў ёмістасць з пяском і вадой. І пажадана падалей ад батарэяў. Тады тыдні два жыцця ёй гарантаваныя.

Усяго ў свеце набярэцца каля 40 відаў елак, сярод якіх ёсць елка канадская, блакітная і сібірская. Па прыгажосці і пушыстасці тая, што расце ў нас, ім значна саступае. Плюс да ўсяго экалагічны стан навакольнага асяроддзя таксама адбіваецца на знешнім выглядзе елак: яны не любяць загазаванасці, заводскага пылу, замаразкаў у раннюю восень і позняй вясной. Таму не дзіва, што на перадсвяточным ёлачным кірмашы часта няма чым і вока парадаваць. Тое, што там панакідана гурбамі, ляснымі прыгажунямі не паварочваецца язык назваць. Ялінкі больш нагадваюць ёлачны шкілет, які пакуль як мага шчыльней не завесіш цацкамі і «дожджыкам» – навагодняй ёлкі не зробіш.

На выглядзе ялінак значна адбіваецца і надвор'е, у якое іх секлі: ялінкі, што ссеклі ў марозны дзень, выглядаюць больш пушыстымі і прастаяць дольш, а калі ж у гэты дзень была вялікая вільготнасць – хвоя хутка пачне асыпацца. Зразумела, што калі за тыдзень трэба ссекчы 30 тысяч елак на святочны продаж, на надвор'е ніхто звяртаць увагі не будзе.

Сёлета елкі на адмысловых кірмашах з'явіліся 23 снежня. І з пакупкай варта не зацягваць да апошняга дня, бо ўсім ялінак можа і не хапіць. Дрэва вышынёю да двух метраў зацягне пад 4–5 тысяч рублёў. Можна купіць штучныя ёлкі – зусім ніякіх праблемаў. Аддасі ад 25 тысяч рублёў і вышэй у залежнасці ад памераў за пушыстую ёлку, сасну ці нават пíхту і не ведаеш турботаў: разабраў, сабраў і ніякага табе смецця пасля іх. І прыроду зберажэш.

А для тых, хто ўсё ж такі не ўяўляе сабе Новага Году без хвоевага паху ў пакоі, варта набыць невялічкую жывую елку ў гаршчочку. Два святочныя тыдні яна спакойна можа вытрымаць у цёплай кватэры, а ўвесь астатні год правесці на балконе ў чаканні новых святаў.

Зрэшты, ёлка не адзіны сімвал Новага Году і Нараджэння Хрыстовага, і па вялікім рахунку і без яе можна абыйсціся. Прынята лічыць, што моду ўпрыгожваць менавіта ялінкі на гэтыя святы ўвялі немцы. Яны верылі, што ў гэтым дрэве жывуць добрыя духі, і, вешаючы на яго розныя рэчы (ад гэтага пайшлі цяперашнія ёлачныя цацкі), людзі тым самым прыносілі ім даніну. Яшчэ раней было прынята насіць на галаве вянкі з ялінкавых галінак, а потым з цягам часу ў замежнікаў з'явілася традыцыя вешаць такія вянкі на ўваходныя дзверы дому, нібыта запрашаючы ў хату добрых духаў.

Багацеі могуць пераняць прыклад японцаў. Ім у гэтым годзе належыць рэкорд па самай дарагой святочнай ёлцы. У адным з прыватных клубаў Токіо 6-метровую ёлку ўпрыгожылі ювелірнымі вырабамі і дарагімі гадзіннікамі з брыльянтамі, якія абышліся ў 11 мільёнаў даляраў. Галоўная беларуская ёлка, якую паставілі на Кастрычніцкай плошчы, больш сціплая. Навагоднюю ёлку вышынёй 26 метраў сёлета сабралі з 121 ялінкі, якую ўпрыгожваюць усяго толькі каля сотні вялікіх шароў і паўсотні гірляндаў.

**Алена ЛАБАНАВА**



## *Год Казы: што занадта – то на шкоду*

Новы Год не праходзіць без застолля. Часам нават не зразумела, навошта збіраюцца людзі: свята адзначыць ці як мага больш выпіць і з'есці. Наступствы, часам, далёка не святочныя – могуць забадаць, бо наступае Год Казы



**Ігар Грыгор'еў, загадчык аддзялення таксікалогіі бальніцы хуткай дапамогі.** «Летась на навагоднюю ноч у аддзяленне прывезлі сем падлеткаў, якія на дыскатэцы не толькі шмат танчылі, але яшчэ болей выпілі піва. У астатнім усё было як звычна. У аддзяленне таксікалогіі трапляюць і «запойныя» п'янтосы. Звычайна гэтыя людзі маюць шэраг саматычных захворванняў. Іх п'яны марафон пачынаецца на каталіцкія каляды. У каго здароўе слабое, той Новы Год сустракае ў аддзяленні таксікалогіі. Хто мацнейшы – трапляюць у бальніцу бліжэй да праваслаўных Калядаў».

**Вольга Глаз, загадчыца аддзялення харчовых атручванняў інфекцыйнай бальніцы.** «Добра, што зменшылася колькасць атручванняў з-за ўжывання хатніх кансерваў. Замарожаная садавіна і агародніна значна карысней для арганізма па шэрагу прычын, у тым ліку і малой верагоднасці атручвання. Самымі рызыкоўнымі святочнымі стравамі лічацца піроaccess з бялковым крэмам, кансерваваныя грыбы, садавіна і агародніна. Што тычыцца мясных страваў, то найчасцей атручваюцца курацінай, якую недастаткова варылі, смажылі або тушылі. Рыба і асабліва ікра, салёная ў хатніх умовах, таксама адносяцца да прадуктаў з «групы рызыкі».

**Уладзімір Дзюба, журналіст:** «На свята люблю выпіць гарэлачкі пад грыбочкі. Пад настрой і сам гатую святочныя стравы. Маю свае рэцэпты. Увогуле, калі гарэлкі піць у меру ды з добрай закуссю – гэта асалода. Блага, калі без меры. Але часам такое здараецца. Дару добры рэцэпт тым, хто «перабярэ». Раніцай замест традыцыйнага расолу лепей з'есці порцыю двайной-трайной юшкі».

**Начальнік медвыцвярэзніка Віктар Несцяронак:** «Новы од – сямейнае свята. У мінулую навагоднюю ноч у нас былі толькі два пастаяльцы. Свята ёсць свята, і калі да нас прывозяць чалавека, які можа назваць свой адрас, тэлефон, а сваякі гатовы за ім прыехаць на працягу гадзіны, то мы нават не афармляем гэтага грамадзяніна. Але святочных скідак ці надбавак у нас не прадугледжана: паслугі медвыцвярэзніка каштуюць 16.650 рублёў. Звычайна ў нас не хапае месц на каталіцкія і праваслаўныя Каляды, стары Новы Год. Магу з упэўненасцю сказаць, што ўвечары 24 снежня ў нас будзе «аншлаг».

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Забыты смак куцці

***Канец снежня і пачатак студзеня для беларусаў ці не самая чаканая пара. Ды дзе там пачатак студзеня – цэлая палова: час ад 25 снежня да 14 студзеня прамінае як адно суцэльнае свята, расцягнутае аж на тры тыдні. Раство каталіцкае, Новы Год, Раство праваслаўнае, стары Новы Год... Усе святы розныя, але адзначаем мы іх аднолькава***

Што з году ў год адбываецца гэтымі днямі ў Мінску ды наогул па ўсёй краіне, за выключэннем некаторых сем'яў? Шампанскае, пасля гарэлка, а часта проста гарэлка і гарэлка. На закуску – абавязковы тазік салату «Аліўе», які стаўся сапраўдным сімвалам савецкага Новага Году.

А народныя традыцыі, звычаі забыліся. Ад сакральных Калядаў застаўся пшык. Бывае, бацькі, што яшчэ памятаюць калядныя забаўкі і абрады, падвучаць сваіх дзяцей пакалядаваць. Але рэдка хто ведае, як гэта рабіць: як танчыць, што спяваць, што казаць. У выніку малыя проста ходзяць па суседзях і цыганяць цукеркі.

А як святкуюць Раство і Новы Год у свеце? Ці і там забыліся на традыцыі продкаў? Не, на захад ад нас памяць у людзей не такая кароткая.

У Еўропе галоўнае – гэта Раство, Новы Год у параўнанні з ім выглядае як сімвалічная дата календарнай змены двух гадоў. З Народзінамі Хрыстовымі тут віншуюць паштоўкамі кожнага сябра, сваяка, знаёмца. Некаторыя сем'і адсылаюць болей за сотню такіх паштовак. На іх падпісванне трацяцца цэлы вечар, а то і не адзін. Традыцыя гэтая пайшла з Англіі ў сярэдзіне 19-га стагоддзя. Дарэчы, і дасюль больш за ўсё ў свеце паштовак адсылаюць менавіта англьчаны.

Малыя еўрапейцы, натуральна, больш любяць не паштоўкі, а падарункі. У адрозненне ад беларускіх дзяцей, яны шукаюць іх не пад ёлкай, а ў панчохах і чаравіках. Дарэчы, цэлую ёлку могуць і не ставіць, замест гэтага – у кожным пакоі развешваюць ялінкавыя лапкі. Што да традыцыі ўстаялёўваць у доме на Раство ёлкі, то гэтая завядзёнка ідзе ад 16 стагоддзя. Па адной з версіяў, першым гэта зрабіў у 1513 годзе Марцін Лютэр.

Натуральна, што ў кожнага народа свету ёсць свае адметныя традыцыі, як бавіць час на Раство або Новы Год.

У экзатычнай Бірме на Новы Год заведзена аблівацца, прычым не сімвалічна, а сапраўднымі фантанамі: дзеля гэтага тут загадзя рыхтуюць усё, што трэба – ад самага рознага посуду да помпаў. За адзін дзень на такое абліванне-ачышчэнне расходуецца столькі вады, колькі хапіла б на месяц цэламу Мінску. У Гвінеі 1 студзеня прынята вадзіць па вуліцах сланоў.

У В'етнаме дораць адзін аднаму персікавыя галінкі, гадзінамі сядзяць пры вогнішчы і распавядаюць розныя гісторыі. А ў Японіі самым ранкам першага дня Новага Году ідуць глядзець, як узыходзіць сонца. У Бразіліі ў акіян пускаюць драўляныя лодачкі са свечкамі і загадваюць жаданні: чым дольш свечачка будзе гарэць, тым болей шанцаў, што жаданне зрэчаісніцца.

На Кубе апоўначы кілішкі напаўняюць звычайнай вадой і выліваюць іх за вокны. Гэтак праводзяць прамінулы год. Яшчэ на гэтай выспе з кожным ударам гадзінніка, які б'е дванаццаць разоў, з'ядаюць па вінаградзіне. У Балгарыі за святочным сталом роўна на 180 секунд тушаць святло. Гэтыя тры хвіліны тут называюць «хвілінамі пацалункаў». У Румыніі ў пірог запякаюць па завядзёнцы розныя дробныя рэчы – ад манетак да перцу. Што табе дастанецца, гэткі будзе для цябе і год.

Пірог на Раство – у прынцыпе, гэта традыцыя ўсіх еўрапейскіх краін. Аднак у кожнай з іх у дадатак ёсць і свае традыцыйныя стравы. У Чэхіі на Раство і на Новы Год ядуць запечанага карпа, у Швейцарыі – ласося, французы – смажаную індычку, немцы – гусь. А вось ужо ў суседняй Аўстрыі лічыцца, што птушку есці нельга, бо шчасце зляціць. Італьянцы прывыклі на Раство і Новы Год жаваць арэхі і чачавіцу, а дзеля чаго - і самі не ведаюць.

Беларусы сярод іншага мусілі б есці, як продкі, куццю і бліны, але многія, на жаль, не ведаюць нават, што гэта за куцця такая.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

# «Гасцей сустракайце...»

На вуліцы цісне мароз і прыціскае нас усё цясней да той чароўнай часіны, якая называецца Каляды. Калі вы малады і поўны энергіі і хочаце паспытаць гэтага свята вухам ды вокам, то раю вам зрабіцца калядоўшчыкам, зладзіць калядны гурт дый павандраваць па хатах. А для гэтага прыміце колькі парадаў.

Спачатку размяркуйце ролі. Самыя ганарлівыя будуць Пачынальнікі, іх звычайна двое, і яны вядуць дыялогі з гаспадарамі. Механоша носіць мех, выпрошвае дарункі ды дзякуе за гасціннасць і шчодрасць. Яму патрэбен як доўгі язык, так і моцныя плечы. Зорканоша загадвае зоркай, пракладвае шлях, паказвае накірунак. Без Казы вам не абысціся, як і без Павадыра, які вядзе яе на вяровачцы. У гурце могуць быць Засявальнікі, Цыганы, Конь, Мядзведзь, Фельчар, цётка Шчодра, дзядзька Мікола і інш. Гэта ўсе адначасова і спевакі.

Неабходна прадумаць маршрут. Гэта могуць быць хаты калегаў па вучобе, працы, сяброў, суседзяў. Лепш за ўсё папярэдзьце іх, каб чакалі, а то няўтульна будзе «цалаваць» клямачку пры замкнутых дзвярах.

У хату ўвальвацца трэба пад песню. Лепей за ўсё падыходзіць «Добры вечар тому».

*Добры вечар тому* 2 р.<br>
*Хто ў гэтаму дому* 2 р.<br>
*Сталы засцілайце* 2 р.<br>
*Гасцей сустракайце* 2 р.<br>
*А па гэтай мове* 2 р.<br>
*Будзьце ўсе здаровы* 2 р.

Каб павесяліць гаспадароў, трэба пасяваць і вясёлую песню. Вельмі любяць слухаць «Ой, калядныя бліны ладныя». Калі ж просяць спяваць яшчэ, то самая пара выпускаць Козачку. Яна скача пад песню «Го-го-го каза, го-го-го шэра», а потым напрыканцы песні куляе на падлогу і прытвараецца змерлай. Тут ужо трэба не спаць, а выпрошваць пачастункі: *казе на хвасток мяса кусок, а на рожанькі два піроржанькі ды кавалак сала, каб Каза ўстала* і г.д. А Фельчар мацае пульс, слухае серца, ставіць дыягназ – і просіць лекаў – ласункаў. А Павадыр гаруе-бядуе і просіць пачастункаў. А цыганы варожаць і просяць пазалаціць ім ручку, а казе – капыток. Мядзведзь раве і абяцае ўсіх раздзерці, калі Козачка здохне, а Конь іржэ і стараецца гаспадароў убрыкнуць. Пры такой прыемнай гамане, аднак, не забывайцеся, калі знаходзіцеся на пэўным паверсе, што пад вамі жывуць людзі і што яны маюць люстру, якая ніяк не павінна паўтарыць подзвіг Казы і пляснуцца на падлогу. Бо тады вашыя гаспадары надоўга запомняць і вас, і гэтыя Каляды.

Як мех больш чым напалову запоўніцца, тады Каза ўстае, і ў цэнтр увагі выходзяць Засявальнікі:

*Хутка Васілле, і трэба*<br>
*засеяць хату*<br>
*Дабром і шчасцем.*

Засяваюць звычайна цэльнымі зярняткамі – жытам, пшаніцай, грэчкай, просам. Рыс і пярлоўка не падыходзяць.

Засявальнікам не трэба абсыпаць усю хату, інакш гаспадары яшчэ і на Вялікдзень, прыбіраючы хату, будуць адшукваць зярняткі ў плінтусе. Сціпленька сыпаніце пад ногі Гаспадару і Гаспадыні дый распавядзіце:

*Ходзіць Ілля на Васілля*<br>
*Носіць пугу залатую.*<br>
*Дзе ей узмахне – там жыта*<br>
*расце,*<br>
*Дзе не махае – там не*<br>
*бывае.*<br>
*А ў полі – кустом,*<br>
*А ў хаце – дабром.*<br>
*Радзіся, жыта, пшаніца*<br>
*і ўсякая пашніца.*

Тут самы раз нажадаць гаспадарам цэлы мех дабравестачак.

Цётка Шчодра з дзядзькам Міколам могуць разыграць дыялог «Ці бачыш ты мяне?» Аснову дыялогу складаюць пажаданні:

*– А каб ты, Міколачка, не бачыў мяне з-за высокага жыта, пшаніцы, лёну, высокіх копаў сена, капцоў бульбы і г.д.*

*– А каб ты, Шчодрачка, не бачыла мяне з-за гораў памідораў, з-за буртоў гуркоў, з-за копаў морквы і г.д.*

Калі ў сям'і ёсць дзеці, можна арганізаваць гульні. Малыя вельмі любяць гуляць у Мядзведзя, які ляжыць пад кустом і храпе, а яны ходзяць па лесе:

*У мядзведзя на бару,*<br>
*Грыбы, ягады бяру.*<br>
*Мядзведзь рычыць,*<br>
*На нас глядзіць.*

Мядзведзь прачынаецца і ловіць іх. Каго злавіў – той ужо Мядзведзь.

Не забудзьце толькі, што дзятва любіць прызы, пагэтаму змірыцеся з тым, што мех у Механошы значна палягчэе.

Не чакайце, пакуль гаспадары будуць паглядваць на гадзіннік, а з песняй выбірайцеся з хаты.

*Паехала Каляда з канца ў*<br>
*канец,*<br>
*Каляда, Каляда, Калядзіца*<br>
*мая.*

Калі сустракаеце людзей на лесвіцы, на вуліцы, у транспарце – загаворвайце, нагадвайце пра свята, сыпце пажаданнямі. Няхай гучыць наша мова ў святую пару Калядаў. Заходзьце ў крамы – там звычайна ветліва і гасцінна ўсміхаюцца. Толькі не завітвайце ў Макдональдс – амерыканскі стыль не прымае незацугляную калядную вандроўку, і вас могуць холадна-ветліва папрасіць пакінуць памяшканне, падпсуўшы свята. Але не маркоцьцеся – вас так любоўна чакаюць у беларускіх сем'ях. Паехала, Каляда!

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ,**<br>
**хранічны калядоўшчык**

# Шакалад на Каляды

***Міфы ворагаў шакаладных прысмакаў***

## Ад шакаладу прышчавеюць

Няпраўда. На справе прышчы ўзнікаюць на падставе няправільнага функцыявання нутраных органаў, стрэсу ці гарманальнага дысбалансу. Натуральна, ніякага дачынення да гэтага шакалад не мае. Адзінае выключэнне – індывідуальная непрымальнасць шакаладу. Але і такім асобам можна смела з'есці пару кавалачкаў, галоўнае каб не плітку за пліткай. Так што не трэба хвалявацца: навука сведчыць, што шакалад не можа сапсаваць твар сваім аматарам.

## Ад шакаладу таўсцеюць

Гэта далёкае ад праўды сцвярджэнне. Каларыйнасць пліткі шакаладу складае прыкладна 500 ккал. Чалавеку на дзень патрэбна 1800–2000 ккал. Калі, напрыклад, замяніць дзённую порцыю хлеба адной пліткай шакаладу, дык вага не зменіцца. У Іспаніі адзін з жаночых часопісаў нават прапанаваў сваім чытачкам «шакаладную дыету», у якую ўваходзілі тры кубкі густой какавы і 100 грамаў горкага шакаладу на дзень. Пры гэтым страта вагі магла скласці да 2 кілаграмаў на суткі. Прымаць такія пакуты дзеля памяншэння вагі не варта, але адмаўляцца ад любімых прысмакаў няма падставаў.

## Шакалад шкодзіць сэрцу, як кава

Так мяркуюць недасведчаныя, тыя, каму здаецца, што шакалад мае высокае ўтрыманне кафеіну. На справе, усё наадварот: у плітцы шакаладу ўтрымоўваецца ўсяго 30 мг кафеіну, а ў кубачку кавы – 180 мг. Да таго ж вучоныя пацвердзілі, што какава памяншае выпрацоўку халестэрыну, шкоднага для сэрца і артэрыяў. Даследаванні, атрыманыя Еўрапейскім таварыствам кардыёлагаў, сведчаць, што паліфенолы, што прысутнічаюць у какава-бабах, добра ўплываюць на сардэчна-сасудзістую сістэму. Яны садзейнічаюць больш эфектыўнаму крывяному току, скарачаючы нагрузку на сэрца. Таму ўжыванне шакаладу – прыемны сродак захаваць сэрца здаровым.

## Белы шакалад больш карысны, чым малочны і чорны

Такое меркаванне наогул мяжуе з бязглуздзіцай. Чорны горкі шакалад без начыння і дадаткаў – самы карысны. У ім болей фенолаў, якія звязваюць шкодныя свабодныя радыкалы, і ў той жа час ён утрымоўвае значна менш тлушчу, чым малочны і белы. Горкі шакалад, як лічаць дыетолагі, няшкодны, бо ў ім болей какава-бабоў, чым цукру. Болей шкоды, чым чорны, мае прыносіць белы шакалад, які вырабляюць з какава-масла з дадаткамі цукру. Ну а найбольш шкодны для вагі «малочны» шакалад, у якім какава-бабы спалучаюцца з какава-маслам і сухім малаком.

Наогул, усё, што гаварылася вышэй пра карысныя якасці шакаладу, датычыць менавіта горкага.

# Маёнтак Санта-Клауса

Дзякуючы распаўсюджанай веры ў Санта-Клауса, Лапландыя, адзін з самых бедных рэгіёнаў Фінляндыі, здолела стварыць прадпрыемствы, якія прыносяць значны прыбытак.

Гэта малады эканамічны фенаомен. За Палярным кругам не было практычна нічога да таго часу, пакуль у 1950 годзе сталіцу Лапландыі, горад Раваніемі, не наведала жонка былога прэзідэнта ЗША Элеанора Рузвельт. Напярэдадні візіту пабач з дарогай, якая вяла ад сталіцы краю на поўнач, збудавалі лясны дом Санта-Клауса.

Вось гэтак да Санта-Клауса за Палярны круг пачалі прыязджаць наведвальнікі на некалькі дзён перад Калядамі. У 1985 годзе лапландцам прыйшла ідэя адкрыць офіс, куды б дзеці маглі звяртацца круглы год. А праз 10 гадоў гэтая зона ўжо шанавалася як «афіцыйная сталіца Санта-Клауса».

Сёння тут, у адной з самых непрыдатных на зямлі мясцінаў для жыцця, створаны буйнейшы турыстычны цэнтр. Снежань у Фінляндыі – гэта час Палярнай ночы, калі сонца практычна не ўстае, і ў горадзе 22 гадзіны на суткі пануе ноч. А калі сонца паказваецца, яно недадае цяпла, а толькі крыху фарбуе неба ружовым колерам. Тэмпература можа апускацца да 45 градусаў ніжэй нуля, хоць звычайна стаяць 10–20-градусныя маразы.

Для спакусы самых нерашучых у 1996 годзе быў збудаваны забаўляльны цэнтр, які прымае да 50 тысяч наведвальнікаў на працягу месяца да Новага Года. У 2001 годзе гэтую мясціну наведалі 400 тысяч турыстаў, і кожны турыст пакінуў у сярэднім па 65 еўра за час візіту ў рэзідэнцыю Санта-Клауса.

Тут можна пакатацца па сказачных лясах на санях, запрэжаных аленямі, паганяць на снегаходах, даведацца аб сакрэтах фінскіх гоншчыкаў, запісацца ў школу кіравання машынай ў зімовых умовах, пабачыць паўночнае ззянне. За Палярным кругам знаходзіцца «пячэра Санта-Клауса», закрытая дзвярыма вагой 16 тон. Самыя рамантычныя турысты могуць нават узяць тут шлюб: за 1.000 еўра ім арганізуюць адпаведную цырымонію проста на снезе.

Для фінаў Санта-Клаус заўсёды быў нечым большым, чым старым з белай барадой і ў чырвонай куртцы, які раздае дзецям цукеркі. 24 снежня жыццё ў краіне цалкам спыняецца, наступае дзень Каляднага міру: не ходзяць цягнікі, ніхто не працуе, усе сядзяць па дамах, апроч некалькіх Санта-Клаусаў, якія здабываюць у агульную санта-клаусаўскую скарбонку па 30 еўра за 15-хвілінныя наведванні фінскіх сем'яў. У Калядную ноч такія візіты абавязковыя: Санта стукаюць у дзверы, гаспадары прапануюць яму прысесці за стол, і ён пачынае апавядаць пра доўгае падарожжа з Лапландыі, адкуль прывёз дзецям падарункі.

Усё жыццё лапландскай сталіцы залежыць ад таго, як адкажуць бацькі ў розных краінах на пытанне сваіх дзетак: «Дзе жыве Санта-Клаус?» Калі ўсе дзеці будуць ведаць, што дамок Санта-Клауса знаходзіцца ў Лапландыі, жыхары гэтай далёкай мясцовасці змогуць пачувацца спакойна, бо будуць мець працу. Каб дамагчыся такіх ведаў у дзяцей усяго свету, была нават прыдумана спецыяльная марка коштам 6 еўра з выявай Санта-Клауса.

Летась паштовае аддзяленне, якое працуе толькі на Санта-Клауса, атрымала 700.000 лістоў ад дзяцей з 184 краінаў. Калі дзіця ці былое дзіця, а цяпер дарослы, пажадае напісаць Санта-Клаусу ліст, то вось ягоны адрас:

**«Santa Claus Joulupukin Pддposti Joulupukin Pajakylд 96930 Napapiiri Finlandia».**




**Падпісны індэкс 63773**

Новы Час
Галоўны рэдактар
**Алена АНІСІМ**

**Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.**
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
**E-mail: nchas@promedia.by**

Рэдактар нумару **Канстанцін Тарасаў**
Камп`ютэрная вёрстка **Андрэй Дзегцяроў**

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
220004, Мінск, вул. Кальварыйская, 24. Замова № 354
Падпісана да друку 23.12.2002 (12:00).
Наклад 1 700 асобнікаў.
**Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13**